
Дзікі Беласток ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Гальяш Леўчык ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (3350) Год LXV

Беласток, 26 ліпеня 2020 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Турысты палюбілі агракватэры

Хаты Сцяпана Чабая з Новаберазова

Пандэмія каранавіруса спрычынілася да выдатнага памяншэння выездаў жыхароў Польшчы на летні адпачынак у замежныя краіны. Затое паявілася масавая зацікаўленасць адпачынкам у айчынных агракватэрах. Паводле даных Галоўнай статыстычнай установы ў канцы 2019 года ў Польшчы было зарэгістраваных 8129 агратурыстычных кватэр, у якіх для турыстаў было падрыхтаваных звыш 91 900 начлежных месцаў, што састаўляе вялікую начлежную базу, у якой зараз начуюць штораз новыя турысты. У многіх агракватэарах начлегі забраніраваны ўжо да канца канікулаў. Гэта тычыцца таксама аграквартэр у раёне Белавежскай пушчы. Жыхары Польшчы так масава рашыліся на адпачынак у агракватэрах, паколькі ён, маючы на ўвазе пандэмію каранавіруса, больш бяспечны, чым у замежжы і ў гасцініцах, дзе начуе многа людзей. Турысты, якія наведваюць Гайнаўшчыну, ахвотна слухаюць аб асаблівасцях мясцовых традыцый, беларускай культуры, праваслаўнай рэлігіі, цікавяцца выглядам цэркваў і старой драўлянай архітэктурай. Пры некаторых агракватэрах былі арганізаваны музейчыкі, у якіх можна ўбачыць даўнія прылады працы, ткацкія вырабы, ці гліняны посуд нашых продкаў, што з'яўляецца дадатковым козырам, які прыцягвае турыстаў у рэгіён Белавежскай пушчы багаты незвычайнай прыродай. Некаторыя ўласнікі агракватэр расказваюць сваім госцям аб занятках характэрных для беларускіх вёсак у мінулым. Нашы жанчыны па заказе пякуць турыстам хлеб паводле даўніх рэцэптаў і рыхтуюць традыцыйныя стравы.

Калі паявілася магчымасць арганізаваць агратурыстычную дзейнасць, адны глядзелі на яе з падазронасцю, апасаючыся кантралёраў і малой зацікаўленасці прыезджых такім відам турызму, а другія ўбачылі ў новай прапанове вялікі шанц для добрага заробку і праяўлення сваёй крэатыўнасці. У самой Белавежы, у сярэдзіне Белавежскай пушчы, арганізуючы агратурыстычны адпачынак у сваіх дамах, можна нават зарабіць на ўтрыманне сям'і. Цяпер у Гайнаўскім павеце штораз больш турыстаў стала прыязджаць на адпачынак у агракватэры ў Нараўчанскай, Гайнаўскай, Дубіцкай і Кляшчэлеўскай гмінах, адкуль таксама недалёка ў Белавежскую пушчу. Нашы гаспадыні і гаспадары, а таксама выхадцы з вёсак, якія рашыліся арганізаваць агратурыстычную дзейнасць у сваіх хатах, дабіліся поспехаў перш за ўсё дзякуючы сваёй зычлівасці, мілай абслузе гасцей і цяжкай працы, якую трэба ўкласці, каб айчынныя і замежныя турысты хацелі вяртацца ў тыя самыя кватэры. У рэгіёне Белавежскай пушчы нашы беларускія традыцыі, культура і ўся наша спадчына — гэта козыр, які побач прыгожай і незвычайнай пушчанскай прыроды прыцягвае турыстаў на начлег і адпачынак у агракватэры. Госці цікавяцца даўнім вясковым жыццём, беларускім фальклорам і нават мясцовай мовай, паколькі здаралася, што турысты прасілі гаспадароў, каб тыя пагаварылі па-свойму.

**Ахвотна прыязджаюць у Белавежскую пушчу і начуюць у агракватэрах**

Многа агратурыстычных кватэр знаходзіцца ў мясцовасцях у Белавежскай пушчы і яе наваколлі. Пераначаваўшы ў іх, турысты наведваюць розныя месцы ў пушчы і яе атракцыёны — Белавежскі нацыянальны парк і яго запаведнік, Зубрыны паказны запаведнік, Прыродна-лясны музей і многа іншых цікавых месцаў.

— Вясной з-за пандэміі каранавіруса, згодна з указаннем урада, нельга было наведваць Белавежскі нацыянальны парк і іншыя аб'екты. Калі змякчылі санітарны рэжым, у чэрвені Белавежскі нацыянальны парк наведала больш турыстаў, чым прыязджала да нас на працягу месяца перад успышкай пандэміі. У мінулых гадах у чэрвені ў пушчу прыязджалі ў галоўным арганізаваныя групы, паколькі яшчэ тады адбываліся заняткі ў школах. У гэтым годзе ў чэрвені парк сталі масава наведваць індывідуальныя турысты, якія прыязджалі ў невялікіх групах. Турысты жылі ў агракватэрах у Белавежы і ў навакольных мясцовасцях ды ў белавежскіх гасцініцах. У аб'ектах Белавежскага нацыянальнага парку, агракватэрах і гасцініцах абавязвае строгі санітарны рэжым, таму многа турыстаў рашаецца наведваць наш рэгіён. Турысты начуюць таксама ў кемперах, якія бачны на аўтастаянках. Госці, якія прыязджалі да нас на адпачынак, ахвотна перамяшчаліся па выдзеленых пушчанскіх пешаходных сцяжынках і веласіпедных шляхах. Пасля самаізаляцыі людзі больш чым раней патрабуюць непасрэднага кантакту з прыродай і карыстаюцца гэтай магчымасцю ў прыгожай Белавежскай пушчы, перамяшчаючыся таксама па ёй па-за нацыянальным паркам. Зубрыны паказны запаведнік у чэрвені гэтага года наведала больш асоб, чым раней. Прыродна-лясны музей у Белавежы наведала ўжо менш асоб, але на гэта паўплываў строгі санітарны рэжым. У музеі невялікія памяшканні і можна ўпускаць у іх абмежаваную колькасць турыстаў. Лік турыстаў, якія прыязджаюць да нас у ліпені, таксама вялікі, — сказала старшы спецыяліст па справах наведвання Белавежскага нацыянальнага парку Анна Герасімюк.

— Колькасць турыстаў, якія наведвалі Белавежскую пушчу і яе наваколле ў чэрвені і ліпені — вялікая. Начлежныя месцы ў многіх агракватэрах у Белавежы забраніраваны ўжо да канца жніўня, — заявіла Марта Гжэляк, старшыня Мясцовай турыстычнай арганізацыі рэгіёна Белавежскай пушчы, якая знаходзіцца ў Гайнаўцы.

Апрача знаёмства з займальнай пушчанскай прыродай, наглядання за лясной звярынай і птушкамі, турысты шукаюць таксама зусім іншых атракцыёнаў па-за пушчай.

— Трэба ўмела паказваць турыстам нашы традыцыі, культуру і архітэктуру, паколькі адной прыроды ім недастаткова. Кожная агракватэра павінна быць іншай і прыцягваць турыстаў сваімі адметнасцямі, козырамі, — заявіла ўласніца агракватэры.

— Зараз наглядаецца вялікая зацікаўленасць адпачынкам у агракватэрах і магчыма, што гэта выклікане страхам перад пандэміяй каранвіруса і меншай зацікаўленасцю адпачынкам за мяжой. У мяне каля дзесяці начлежных месцаў і я стараюся прымаць турыстаў на даўжэйшы адпачынак. Начуюць у мяне перш за ўсё сем'і і зараз месцы забраніраваны да канца жніўня. Маімі дзвюма хатамі збудаванымі ў канцы XIX і на пачатку XX стагоддзя цікавяцца многія турысты. Нават тыя, якія не



Аграквартэра Ірэны Ігнацюк з байдарачнай пристанню на рацэ Нараўцы ў Ляўкове

чытайце ☞ 4





# Гонар

Па ўсім свеце сёння транслююць шматлікія відэакадры з Беларусі, на якіх людзі ў форме жорстка затрымліваюць і брутальна цягнуць сваіх суайчыннікаў у аўтазакі толькі за тое, што тыя выйшлі на акцыі пратэсту. Выйшлі, каб адстаяць свае права звацца людзьмі.

У розных краінах пад амбасады Беларусі з плакатамі на беларускай мове і бел-чырвона-белымі сцягамі сталі прыходзіць шматлюдныя дэлегацыі, каб падтрымаць арыштаваных у Беларусі, дзе колькасць прызнаных праваабаронцамі палітвязняў увесь час павялічваецца. Да беларусаў замежжа далучаюцца на гэтых акцыях і мясцовыя жыхары. Іх падтрымліваюць, бо захапляюцца мужнасцю і самаахвярнасцю беларусаў, што адстойваюць у сябе на радзіме свой гонар.

Гонар вялікае і моцнае пачуццё. І асабісты гонар, і нацыянальны таксама. Ён узвялічвае, натхняе на новыя здзяйсненні, на геройскія ўчынкі, на адстойванне свайго меркавання, на змаганні і самаахвярнасць. Заглядаючы ў гісторыю свайго народа, мы, акрамя дасягненняў у розных галінах чалавечай творчасці, заўсёды шукаем там яшчэ і змагароў, учынкамі і жыццёвай пазіцыяй якіх мы хочам ганарыцца. Гэта ўзвышае і нас саміх, акрыляе, далучае да слаўных персанажаў нашай мінуўшчыны.

Героі мінулага, якімі ганарыцца нацыя, паўстаюць у двух цікавых варыянтах.

Мы ганарымся змагарамі, што біліся з вонкавымі ворагамі і адстойвалі вольную і свабодную будучыню свайго народа, тымі, хто ахвяраваў сабой у бітве з чужацкай уладай, каб у свайго народа была свая ўлада.

А яшчэ мы ганарымся і тымі, хто ахвяраваў сабой у змаганні з унутранай несправядлівасцю, з той несправядлівасцю, якую чыніла фармальна нібыта свая ўлада.

Зрэшты, па ўсім свеце людзі аднолькава ганарацца сваімі героямі. Захапляюцца і героямі іншых народаў і падтрымліваюць іх. Як гэта зараз мы бачым у дачыненні да беларускіх актывістаў.

Іх мужнасцю і самаахвярнасцю не захапляецца хіба што толькі свая ўлада. Таму і лагічна паставіць пытанне, а ці свая яна ў такім выпадку? Бо як можа ўлада не ганарыцца мужнасцю і актыўнасцю сваіх грамадзян, якія гатовыя дзеля справядлівасці ахвяраваць сабой?

Гэта ж залаты генафонд нацыі! Без такога генафонду нацыя не выжыве. Ды ўладзе, у дадатак, нават дзеля самой сябе варта было б падтрымліваць такіх людзей. Бо менавіта такія актыўныя і неабыякавыя да лёсу сваёй краіны людзі і ёсць галоўнай сілай у абароне гэтай краіны ад вонкавых ворагаў.

Але ж не. Улада, хіба што, не баіцца вонкавых ворагаў, хоць недвухсэнсоўна намякае, што такія ёсць, і што ад іх трэба бараніць сваю незалежнасць. Але хто яе будзе бараніць? Можа тыя, хто сёння цягае актывістаў у аўтазакі? Непадобна. Гісторыя паказвае, што такія хуценька пачынаюць шукаць сабе новага гаспадара і з лёгкасцю здаюць яму старога.

Акурат тыя, каго сёння судзяць, садзяць, караюць, якія выйшлі змагацца за справядлівасць у сваёй краіне, менавіта яны і здольныя бараніць незалежнасць сваёй дзяржавы. Многія з іх выраслі пры гэтай уладзе і іншай не ведаюць. Іх нацыянальную свядомасць выпальвалі і выцінаылі з каранямі праз інтэграцыйную прапаганду, праз фальшывыя падручнікі, праз ілжывую ідэалогію... У іх кралі іх гісторыю і замоўчвалі славутых старонкі вялікіх перамог героаў мінуўшчыны, іх продкаў. У іх забралі родную мову яшчэ да іх нараджэння, таму не ўсе яны ёй валодаюць у поўнай меры. Але яны вітаюцца словамі „Жыве Беларусь!!!" і апранаюць кашулі з „Пагоняй". Яны самі выходзяць вырашаць унутраныя праблемы сваёй краіны, і больш не спадзяюцца на дзядзькоў з-за бугра, і не спадзяюцца ні на каго іншага, акрамя сябе. Яны аднекуль ведаюць, што так не бывае, каб за іх хтосьці іншы вырашыў іх лёс. Нейкі ўнутраны голас прачнуўся і сказаў ім гэта, бо больш не было каму сказаць.

І гэта яны ёсць гарантыяй незалежнасці і будучага росквіту сваёй вольнай радзімы, бо ў іх прачнуліся гены гонару. Іх не ўдалося прыдушыць, не ўдалося зманкурціць, не ўдалося запалохаць. Нябачная генная спружына раскрылася, і яны патрабуюць годнага жыцця і справядлівасці.

Невядома чым скончацца падзеі гэтага года. Але той гонар, які прачнуўся ў душах людзей, больш не дазволіць ім жыць з апушчанай галавой.

Гонар патрабуе годнасці.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Смех — твой вораг?

Занадта шмат адбываецца ў мяне ў галаве. Я гэтага не ахопліваю. Затое мяне перапаўняе непераадольная трывога. ПіС толькі што абвясціла пра хуткую рэпаланізацыю сродкаў масавай інфармацыі. Змены ідуць. «Змены, змены, змены...», — як казаў бамбізаваты герой камедыі Станіслава Барэі «Што ты зробіш са мной, калі мяне зловіш». Нагадаю, што гэтая нэндзная фігура — пасрэднасці прыроды сацыяльнай гадасці — вылуплены з драконавага яйка сацыялістычнай рэалістычнай пасрэднасці і цынічнага кар'ерызму, сыграў той самы польскі Станіслаў Тым. Я не сумняваюся, што ён будзе рэпаланізаваны першым. Тым! Не герой, якога ён іграў. На жаль, спадар Станіслаў не бессмяротны. Аднак характар, які ён стварыў у фільме, падаецца неўміручым. Неўзабаве ён не будзе ўключаны ў цэнзурны запіс? Фільм! І той, хто працягвае праколваць цяперашнюю ўладу сатырычным пяром.

Як вядома, любая ўлада, якая надзімаецца сваёй ідэалагічнай і маральнай перавагай, навязваючы свае дыктатарскія фантазіі ўсім грамадзянам, не баіцца нічога, акрамя недарэчнасці ў вачах тых жа грамадзян. Менавіта таму яна маркоціцца смехам, навязваючы ўсім строгасць нацыянальнай сур'ёзнасці, нагружанай пакутлівым рамантычным месіянізмам. Таму, што любое «хіхіканне» ўдарае — на яе думку — зусім не ў грамадзян, але ў нацыю, якая, узняўшыся да вышынь свайго прыроднага досціпу, заклікала гэтую, а не іншую сілу да справядлівага кіравання сабой. І гэта, па сутнасці, мэта абвешчанай ПіС рэпаланізацыі сродкаў масавай інфармацыі — забарона на гогалеўскі смех над сабой. Мы ўсе павінны быць сур'ёзнымі. СМІ несур'ёзныя: TVN, Onet.pl, «Gazeta Wyborcza» і кожны грамадзянін — незалежны ад канцэпцыі нацыі, вызначанай уладамі.

Пакуль у краіне паслявыбарчы спакой. Хто адчувае сябе пераможцам — плямкае ў роце мёд поспеху. Хто прайграў — пралівае горкія слёзы. Прэзідэнт Рэспублікі Польшча, абраны роўна палавінкай нацыі — набірае сілу над польскім морам, займаючыся серфінгам на балтыйскіх балвaністых хвалях. Практыка робіць дасканалым. Мастацтва серфінгу карысна ў палітыцы, і ў выпадку прэзідэнта гэта здаецца незаменным. Аднак прыйдзе час прыступіць да працы. Тым больш што каранавірус не адступае. У сваю чаргу людзі, здаецца, адпускаюць сабе дух пільнасці. Улада такая ёсць — здаецца, кажуць — ну і што?! Каранавірус буяе — мы прызвычаіліся! Шматлюдныя вяселлі, хросты, прычашчэнні, храмы поўныя вернікаў. Улады гэта дазваляюць. Наўрад ці хто памятае аб тым, каб сёння надзець маску. Але маска — гэта не кляп, і вы можаце смяяцца, нягледзячы на яе — вядома, за выключэннямі. Часам проста недарэчна смяяцца. На нядаўнім пахаванні Багдана Дудко, галоўнага стваральніка літаратурнага часопіса «Карткі», але і аніматара ідэі мультыкультуралізму і плюралізму, мы развіталіся з ім сур'ёзна. Але без масак. З некалькіх дзясяткаў жалобнікаў толькі трое дастасаваліся да маскавай прафілактыкі. Ах, чаму ж не я — дурны! Таму, што той дурны, хто грэбуе пільнасцю.

Хоць каранавірус не з'яўляецца палітычным бытам, ён можа перакуліць любую палітыку. — Дурні! Дурні! Дурні! — беларусы маглі б сказаць пра сябе, калі б нарэшце не адважыліся на бесцэнзурны смех з лукашэнкаўскіх улад, якія нават параілі ім не насіць масак. У выніку таго Беларусь займае значнае месца ў рэйтынгу захворванняў. Не так даўно, збіраючы подпісы ў падтрымку кандыдатаў, якія жадаюць прэтэндаваць на крэсла прэзідэнта краіны, яе грамадзяне масава выйшлі на вуліцы горада не ў масках, а з... тэпцікамі ў руках. Яны зрабілі гэта ў адпаведнасці з правільнай ідэяй, што самы просты спосаб забіць таракана — звычайным тапачкам. На шчасце, яны хутка зразумелі, што без маскі на твары яны спачатку будуць забіваць сябе. Так што з гэтага часу (абавязкова ў неабавязковых масках) яны паднімаюць затаптаныя тэпцікі над гучным хіхіканнем. Гэта ўражвае. Чаканага адказу прэзідэнта Беларусі, кандыдата на пажыццёвую прэзідэнцкую пасаду, забараняючага нашэнне, захоўванне і продаж тэпцікаў, на жаль, не адбылося. Які жаль! Бо смех (ды яшчэ і з-пад маскі) — смяротны вораг для ўлады, якая не можа смяяцца над сабой.

**Міраслаў ГРЫКА**



# Ці магчымыя змены?

Да прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі застаюцца лічаныя дні, а вось прарочыць ход падзей у краіне, дзе выбарчы закон пішацца міліцэйскімі дубінкамі, справа рызыкоўная. Сённяшнія кандыдаты па прычынах няўлоўных логіцы могуць заўтра апынуцца ў экс-кандыдатах, або і за кратамі, але ж і адпрацаваны ўладамі сцэнарый „запалохаць — здушыць у зародку", правераны ў ранейшых кампаніях, сёлета не спрацоўвае. Знятыя з дыстанцыі кандыдаты вяртаюцца на пляц бою дзякуючы сваім жанчынам, а ўзнятая ў грамадстве хваля нязгоды на загадзя напісаныя вынікі не сціхае, наадварот, можна сказаць — набірае абаротаў. Першы ў Мінску выбарчы мітынг Святланы Ціханоўскай, дарэчы, на не надта зручнай для мітынгаванняў плошчы Бангалор, аказаўся — па меркаваннях відавочцаў — найбольш шматлюдным за апошняе дваццацігоддзе.

Ці магу ўявіць сабе Святлану Ціханоўскую як прэзідэнта Рэспублікі Беларусь? Канешне, так. А як раўнацэннага саперніка на палітычным рынгу — прыкладна — Уладзіміру Пуціну? Шчыра кажучы — тут маё ўяўленне падводзіць. Не той досвед, не тая вагавая катэгорыя, не тая хітрасць, у палітыцы часта-густа далёкая ідэям «фэр плэй».

Святлана Ціханоўская звычайная беларуская жанчына зусім выпадкова зацягнутая ў шасцярні палітычнай махіны. А з другога боку, ці можна назваць выпадковым зняволенне яе мужа, калі сам Аляксандр Лукашэнка з гордасцю пахваліўся перад усім светам: «Так, я даў сігнал».

Магу вось уявіць сабе Святлану Ціханоўскую як прэзідэнта тэхнічнага. На кароткі перыяд, неабходны, каб падрыхтаваць першыя за апошняе чвэрць стагоддзя справядлівыя выбары. Выбары без яе, бо яна не палітык, але ж і без «самі ведаеце каго», бо — пазбягаючы некарэктных слоў — ён ужо быў.

Што Святлана Ціханоўская можа прапанаваць беларускаму электарату ў выбарчай кампаніі? Не губляючы час на ўсялякія цукерачныя абяцанкі кшталту „усім па пяцьсот", можа (і павінна) абяцаць беларусам самае звычайнае: выбары без міліцэйскіх дубінак; без арыштаў кандыдатаў; без ціску на іхныя сем'і і сяброў. Выбары з незалежнымі назіральнікамі, з прадстаўнікамі ад усіх кандыдатаў у выбарчых камісіях, з сапраўдным падлікам галасоў. Выбары з незарэгістраваным Валерам Цапкалам, з Віктарам Бабарыкам, з Сяргеем Ціханоўскім. І не варта паддавацца намёкам, што ўсе пералічаныя тут асобы — стаўленікі Крамля, элемент расійскай інтрыгі, і дзякуючы ім з першага дня пасля перамогі над вечным прэзідэнтам пачнецца працэс здачы дзяржаўнага суверэнітэту.

„У нас тут выбары Аляксандра Лукашэнкі Рэспублікі Беларусь", — узгадваецца несмяротная фраза з кнігі „Быў у пана верабейка гаварушы" Зміцера Бартосіка. Не без прычыны. Чвэрць стагоддзя з Лукашэнкам і ягонай выбарчай сістэмай не застаецца без уплыву на наш спосаб мышлення. Варта ў гэтым месцы прыпомніць каго выбіраем. Не імператара выбіраем, не султана, хто ў адзіночку на чарговыя дзясяткі гадоў стане вырашаць усе нашы справы, ад пасяўной і капання бульбы, па здачу (або не-здачу) дзяржаўнага суверэнітэту. Выбіраем Прэзідэнта, вартавога Канстытуцыі, тым не менш падкантрольнага дэмакратычным дзяржаўным інстытутам.

Зразумела, прагаласаваць у беларускіх умовах — далёка не ўсё. Закінуць бюлетэнь — толькі першы крок. Другі крок, куды больш складаны — адстаяць свой голас. Адстаяць у кожным горадзе, на кожным выбарчым участку, любым спосабам. Ці гэта магчыма? Яшчэ ранняй вясной я б сказаў не, няма такой магчымасці. Сёння, калі гляджу шматтысячны натоўп на плошчы Бангалор, бачу новую Беларусь. І хочацца сказаць — усё магчыма.

Паўтаруся, прарочыць ход падзей у краіне, дзе выбарчы працэс пішацца міліцэйскімі дубінкамі, справа рызыкоўная. Праз дзень, праз тыдзень можа аказацца, што па надуманай прычыне ЦВК зняла з выбараў і гэту, на дадзены момант самую папулярную ў народзе кандыдатку. Пытанне, што далей, ці выстаяць дубінкі, ці хопіць аўтазакаў? Я не ведаю. Улада — таксама не.

**Міхал АНДРАСЮК**

# Няхай іх адловяць або адстрэляць?

— На двары ўжо пацямнела, але было цёпла, — успамінае Дам'ян С. — Я выйшаў з начной крамы, здзёр з твару масачку і закурыў. Насупраць мяне беглі два сабакі, ростам у цяля. Ззаду гналіся дзеці і верашчалі як на перапынку ў школе. Я перавесіў праз плячо торбу, у якой весела бразгаталі бутэлькі і падумаў: «Во, каб была тут мая Сільвія, яна спужалася б гэтых сабак. Ды па старой звычцы, схавалася б за мае плечы і дрыжала б як асінка». Прыемна быць адважным пры спалоханай жонцы, вельмі прыемна...

Дам'яну С. крыху не падыходзіў той дзікі гоман дзяцей, проста запозна было ўжо на падобную эйфарыю. «А ну яго! — падумаў. — Пандэмія жа ж. Людзі шызуюць ад ізаляванасці».

Ён зраўняўся з сабакамі, прапусціў вясёлую кампанію ... і адубеў ад жаху! Толькі цяпер ён зразумеў, што побач яго перабеглі не сабакі, а два дарослыя дзікі. Следам бадзёрых самцоў лунаў пах балотца. Дам'яна ўразіла наіўнасць дзяцей, якія беглі следам звяроў і здымалі іх на смартфоны. Быццам прыдумалі новую гульню з прысмакам прыгоды.

— А дзе ж іх абарончы інстынкт кур... м...ы! — абурыўся ён. — Хто гэта навучыў іх так забаўляцца з дзікай звярынай? Хопіць адзін непрадбачаны рух і крывавы кішэчнік разальецца на элегантным тратуары. Што гэта за пакаленне расце з клеткай на пустой галавешцы?

Ад пабачанага і перажытага Дам'ян С. рашыў вярнуцца ў магазін і дакупіць яшчэ піва. Ён ведаў, што так лёгка не супакоіцца.

* * *

Першыя звесткі пра дзікоў у Беластоку з'явіліся ў 2018 годзе. Звярына спачатку ўпадабала гарадскія агародчыкі, так званыя *дзялкі*. Дзікі бушавалі пад заслонай ночы, таму для большасці жыхароў праблема явілася непрыкметнай і мала шкоднай. І тут звычайна вінаваціла не дзікоў, а міністра Шышку, які даў загад страляць іх у натуральным асяроддзі, нібыта з-за афрыканскай чумы. Аднак сапраўдная навала дзікай звярыны пачалася ўвесну 2020 года. Паспрыяла гэтаму абмежаванне дарожнага руху і прымусовая ізаляванасць людзей, выкліканая эпідэміяй каранавіруса. Дзікоў звабіла яда ў перапоўненых сметніках, асабліва ў кварталах прыліплых да лясных гушчэчаў. Але не толькі! Яны з'явіліся ў цэнтры горада. Адна чарада шпацыравала сабе па бетонным тратуары ля помніка Пілсудскаму. Іншая сямейка — дзікая свінаматка з паласатым маладняком, якія сталі зоркамі інтэрнэту — праходжвалася па квартале Новае места. Яшчэ іншыя два дзікі загасцілі пры Агульнаадукацыйным ліцэі № 1. Яны ўладкаваліся ў бярлозе блізка сметніка ды не думалі шукаць іншага месца. Беластачане жартавалі, што школа ўрэшце дачакалася галодных на веды вучняў. З'яўвішча ў пэўным сэнсе набілітавала горад над рачулкай Белай. Вось па ўсім свеце медыя паказвалі ільвоў, якія вылежваліся на асфальце ў Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы ці дэльфінаў, якія з'явіліся ў каналах Венецыі.

Таму першы прыход дзікоў на мадэрны квартал ТБС народ фоткаў і здымаў на смартфоны і высылаў іх у свет праз камунікатары ды нават у інфарматычнае воблака.

— Яны нас парадавалі як оперныя спевакі ў Італіі, — кажа Сільвія С. — Людзі выходзілі на балконы і былі гатовы ім апладзіраваць. За што — ты яшчэ пытаеш? Ну, дзякуючы ім можна было паставіць арыгінальны здымак на фейсбук ці інстаграм. Або пазваніць сваякам у вёску і расказаць пра дзіва, якое адбываецца пад іх гарадскімі вокнамі. Пра тое, што абрыднуць як горкая рэдзька, ніхто яшчэ не думаў.





* * *

— Гэта бязглуздзіца па поўнай праграме, — абураецца Аля К., — здурэць можна ад той «дыскатэкі».

Дыскатэка ў беластоцкім квартале ТБС — гэта акцыя гарадской стражы, якая з дапамогай святла і пранізлівых гукаў праганяе надта ж ужо прыязных і прыручаных дзікоў з-пад блёкаў і балконаў да недалёкага лесу. Жыхары ўжо не б'юць брава звярыне, а толькі адважным дзядзькам са стражы.

— Няхай іх адловяць або адстрэляць, — кідае Аля К. — Праз іх я не магу пайсці на каву да сяброўкі, што жыве два дамы далей. Хто гэта бачыў, каб дзіч бушавала пад балконамі, абвешанымі геранямі і петуніямі. Яшчэ больш экатаералерантнасці і белыя мядзведзі будуць прахаджвацца па Ліпавай!

Алу К. хвалююць мяккія сродкі, якія прымяняе гарадская страж. Ну гэтыя гудкі родам з індзейскіх запаведнікаў, разнаколерныя блёскі пражэктараў. Смех адзін і падман.

— Яны б не *крахмаліліся*, калі б не народ, — думае ўголас мая субяседніца, — застрэлілі б на месцы і адвезлі ў яму. Яшчэ б пячоначку выразалі і сасмажылі. А што падшпаркі бягуць іх следам са смартфонамі, то асцерагаюцца. Бо яшчэ нейкі Грынпіс прыдзярэцца, пасыплюцца штрафы. І сорам на ўсю планету, бо дзікунамі нас палічаць.

У Беластоку праблема дзікай звярыны набрыняла і відавочная ў белы дзень. Цягам мінулага паўгоддзя ў Гарадскую страж паступіла больш за сто званкоў пра нашэсце дзікай звярыны. Па горадзе, асабліва ў начныя гадзіны, бродзяць не толькі дзікі, але і ласі, казулі, яноты, лісы, куніцы. У акцыі адпуджвання звяроў прымаюць удзел таксама члены Акруговага кола паляўнічых. Гэта яны рашаюць ці адстраляць параненага ў выніку дарожнай катастрофы дзіка ці лася. Фізічнай ліквідацыяй займаецца аднак фірма «Грот». Тыя паляўнічыя — людзі абачлівыя. Яны кіруюць не толькі спалоханай звярынай але і эмоцыямі натоўпу.

— Proszę pana, a te dziki to skąd? Zagraniczne, może one? — спытаў падбадзёраны ў бадзёрага паляўнічага дзядзька, які плёўся следам пагоні, з надзеяй на крывавы фінал.

— Nie, to z tego lasu, — адказаў як дыпламат пан паляўнічы, — one są nasze. Nic im się stać nie może!

* * *

Праблема дзікоў ужо да пандэміі была вынесена на сесію Рады горада. З нашэсцем дзікоў загарэўся ваяваць сам Генрык Дэмбскі. Старшыня клуба ПіС накіраваў інтэрпеляцыю да ўлад горада. Ён прапанаваў расставіць па кварталах драўляныя капканы. Палітык хацеў звабіць звярыну з дапамогай яды. Дзік залезе ўсярэдзіну, а тады — бах, адскочыць кляпа і ўсё гатова. Пасля са злоўленым кабаном рабі што заўгодна. Ну, найлепш яго вывезці ў карчы, хай сабе ідзе адкуль прыйшоў...

— Ад таго каранавіруса людзям зусім перавярнулася ў галаве. Людзі спачатку гуляюць, б'юць брава, а за момант хочуць страляць, — абураецца Дам'ян С. Найбольш яго хвалюе бязглуздасць маладога пакалення: — Дзікае і абжытае — два розныя светы, якія мусова ізаляваць, ахоўваць. Іначай усё перакаўбасіцца, знікнуць страх і адвага, — хвалюецца Дам'ян С. — Я сам напароўся на статак дзікоў і не адчуваў ні жаху, ні хвалявання. Нічога не адчуваў, яшчэ жартаваў як прыдурак. А дзік гэта дзік, яму трэба яда і бярлога ў лесе, а не здымкі на інстаграме.

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

## Вяртаецца прамы цягнік Беласток — Гайнаўка

Праз амаль 30 гадоў будзе адноўлены пасажырскі чыгуначны транспарт з Беластока ў Гайнаўку па маршруце № 52, што стала магчымым дзякуючы мадэрнізацыі ўчастка Гайнаўка — Леўкі і дамоўленасці паміж Падляшскім ваяводствам і суполкай Polregio. Падрабязнасці былі агучаны падчас прэс-канферэнцыі ў Маршалкоўскай управе 10 ліпеня намеснікам маршалка Маркам Ольбрысем разам з Маркам Маліноўскім — членам управы і прадстаўнікамі перавозчыка.

— Гэта транспартная даступнасць, якую мы хочам аднавіць любой цаной і вярнуць жыхарам Падляшскага ваяводства, — сказаў Марэк Ольбрысь пра рашэнне аднавіць пасажырскі рух у Гайнаўку.

Лінія, запушчаная сто гадоў таму, была прыпынена ў 1994 годзе. З 2018 года на ўчастку Гайнаўка — Леўкі ажыццяўляўся толькі грузавы рух. У цяперашні час чыгуначны шлях паміж Гайнаўкай і сталіцай рэгіёна магчымы па кругавой дарозе праз Чаромху, а значыць, падарожнікі павінны пераадолець адлегласць у некалькі дзясяткаў кіламетраў.

Усталяванне сувязі з'яўляецца часткай 10-гадовага кантракту паміж Падляшскім ваяводствам і кампаніяй Polregio.

— Мы на фінішы перамоў, — адзначыў намеснік маршалка М. Ольбрысь.

Дзякуючы падпісанаму дагавору ад студзеня наступнага года 6-8 пасажырскіх злучэнняў у дзень павінны вяртацца па маршруце Беласток — Гайнаўка. Цягнікі будуць абслугоўвацца дызельнымі агрэгатамі (чыгуначныя аўтобусы), якія рухаюцца з хуткасцю да 100 км на гадзіну.

Аднаўленне чыгуначнага пасажырскага транспарту па маршруце Беласток — Гайнаўка патрабавала мадэрнізацыі маршруту 52 на 27-кіламетровым участку Гайнаўка — Леўкі. Па ім пабудаваны новыя шляхі, 12 інжынерных збудаванняў, 22 пераправы, у тым ліку 13 з сучаснымі прыладамі бяспекі руху чыгункі і сем прыпынкаў, абсталяваных сучаснымі платформамі.

— Мы назіраем сумесную дзейнасць мясцовага самакіравання і ўрада, — сказаў прысутны на канферэнцыі міністр нацыянальнай адукацыі Дарыюш Пянткоўскі. — Гэта добры момант для жыхароў Падляшскага ваяводства.

Дэпутат Яраслаў Зялінскі адзначыў, што гэта гістарычнае рашэнне:

— Новая лінія будзе добра служыць падарожнікам і добрым прыкладам таго, што „можна".

Удзельнікі канферэнцыі падкрэслілі добрае супрацоўніцтва паміж Polregio і дзеючай Маршалкоўскай радай.

— Гэта супрацоўніцтва вельмі добрае, — сказаў Артур Мартынюк, прэзідэнт Polregio. — Мы стараемся ўкладваць сродкі ў рухомы састаў і збудаванні. Спадзяемся, што гэтая лінія, але і ўся сетка маршрутаў, паслужаць як жыхарам Падляшскага ваяводства, так і турыстам, якія наведваюць рэгіён.

Кантракт на камунальную паслугу, запланаваны паміж Падляшскім ваяводствам і Polregio на 2021-2030 гады, прадугледжвае паступовую актывізацыю пасажырапатоку і на іншых участках, а таксама павелічэнне колькасці злучэнняў на лініях, па якіх маршруты ўжо працуюць.

Намеснік маршалка М. Ольбрысь, які курыруе транспарт у Маршалкоўскай управе, адзначыў, што жыхары рэгіёна зацікаўлены ў чыгуначных зносінах, і Маршалкоўская ўправа не мае намеру эканоміць на транспартнай даступнасці: „Чыгуначны транспарт хутчэйшы, бяспечны і, што для нас важна, экалагічны".

Пасля канферэнцыі яе ўдзельнікі селі ў цягнік, які ехаў па мадэрнізаваным маршруце ад Беластока да Гайнаўкі. Шчаслівай чыгуначнай дарогі!

**(лук)**

1 ☞ працяг

начуюць у мяне, затрымліваюцца і фатаграфуюць іх. Сваім турыстам я паказваю інтэр'ер старых дамоў, — сказаў Сцяпан Чабай з Новаберазова. — Я свае дамы звонку і ўсярэдзіне абсталяваў на даўні лад, хаця і карыстаўся сучаснымі будаўнічымі матэрыяламі, без якіх цяжка было б прыстасаваць знішчаныя будынкі да жыллёвых мэт. Гадую яшчэ крыху страўсаў, каб быў дадатковы атракцыён для турыстаў.

Сцяпан Чабай удакладніў, што турысты адначасна хочуць жыць па-даўняму і мець выгады і таму стварыў таксама магчымасць карыстацца душам, туалетам і глядзець тэлевізар. Аднак яны схаваныя ад тых турыстаў, што заходзяць у хаты Сцяпана, каб толькі пазнаёміцца з даўняй архітэктурай, беларускімі традыцыямі і культурай. У гэтым годзе аграквАтэру Сцяпана Чабая наведваюць айчынныя турысты. Аднак замежныя госці прыязджалі ў Новаберазова прачытаўшы артыкулы пра яго агракватэру-музейчык у вядомых у свеце турыстычных часопісах. Уладальнікі агракватэр рэкламуюцца ў інтэрнэце і праз пасрэднікі турыстычных згуртаванняў, калі да такіх належаць. Аднак самай лепшай рэкламай з'яўляецца рэкамендацыя людзей, што ўжо жылі ў агракватэрах у нашым рэгіёне.

**Цікавяцца жыццём мясцовых беларусаў**

Турысты, якія начуюць у агракватэрах у нашым рэгіёне, цікавяцца жыццём мясцовых беларусаў. Маркай пушчанскай глыбінкі з'яўляецца даўняе харчаванне, бульбяныя дранікі, хлеб, пірагі, каўбаса, ці аладкі, якія прапануе частка гаспадынь у агракватэрах. Аднак Белавежская пушча застаецца надалей галоўным атракцыёнам, які прыцягвае ў наш рэгіён турыстаў.

— Вясной была забарона прымаць турыстаў, але ў чэрвені начавалі ў нас ужо многа індывідуальных асоб. Цяпер, летам, наглядаецца вялікая зацікаўленасць адпачынкам у агракватэрах і начлегі забраніраваны ў нас да канца жніўня. Летняя актыўнасць турыстаў павінна кампенсаваць вясенні застой. Нядаўна адпачывала ў нас арганізаваная група моладзі, якую я вазіў сваім транспартам, гэтак званай бананзай, на пляж і паказваў атракцыёны па-за кватэрай. Я расказваю турыстам аб Белавежскай пушчы, лясной звярыне, птушках і абводжу іх па «Лясной галерэі», збудаванай па прынцыпах звярынага запаведніка. Мы галерэю разбудавалі, пабольшалі колькасць вываяў звярыны, арганізуем у ёй выставы. Турысты цікавяцца беларускай культурай і хочуць, каб расказваць ім пра мінулае, — патлумачыў Барыс Казлоўскі з Ляўкова, які разам з жонкай Людмілай, апрача агратурыстычнай дзейнасці, сабраў многа экспанатаў і наладзіў у клуні музейчык. Спадарства Казлоўскія паказваюць у ім даўнія сельскагаспадарчыя прылады і іншыя старадаўнія экспанаты.



■ «Лясная галерэя» Барыса Казлоўскага

— Мы ў час майстар-класаў паказваем моладзі працэс апрацоўкі зерня ў жорнах і пячэння хлеба ў пячы, якую і выканалі дзеля прэзентацыі выпечкі хлеба. Падрыхтавалі мы многа прылад дзеля праяўлення актыўнасці для дзетак і моладзі, але рыхтуем таксама атракцыёны для дарослых турыстаў. Ёсць ужо ў мяне матэрыялы і буду цяпер пачынаць будаваць піраміду здароўя, па ўзоры пірамід з мінулага, — дабавіў Барыс Казлоўскі.

Уладальнікі агракватэр расказвалі аб нашых традыцыях і культуры вучням, якія раней прыязджалі ў арганізаваных групах на адпачынак разам з настаўнікамі. У агракватэрах арганізуюцца таксама майстар-класы для дарослых асоб.

— У маёй агракватэры ў жніўні будуць ладзіцца майстар-класы па традыцыйным тканні на кроснах і ёсць заказы на начлег у гэтым часе. У мяне стаяць расстаўленя кросны і турысты, якія начуюць у нашай агракватэры, таксама прабуюць ткаць і я вучу іх як гэта робіцца. Паказваю турыстам таксама даўнія тканыя вырабы і тканіны, якія сама выткала. Прыезджыя хочуць, каб пагаварыць з імі пра нашы традыцыі, жыццё ў мінулым і расказаць, як цяпер жывецца ў вёсцы. З нашага панадворка адразу можна сысці ўніз да ракі Нараўкі, якая плыве побач нашай агракватэры. Мы каля рэчкі зрабілі прыстань і да нас прыязджаюць турысты, каб паплаваць на байдарках па Нараўцы. Іншыя турысты ездзяць на даўжэйшыя экскурсіі на сваіх аўтамабілях, — расказала Ірэна Ігнацюк з Ляўкова.

У Нараўчанскай гміне знаходзіцца многа агракватэр, паколькі адсюль недалёка ў Белавежскую пушчу і да Семяноўскага вадасховішча з пляжам. Таму турысты выбіраюць начлегі ў гэтым рэгіёне, якія таннейшыя ад тых у самой Белавежы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Завершана перабудова пагранперахода

Павышэнне прапускной здольнасці, паскарэнне кантролю чакаючых і большая бяспека — гэта вынікі рэканструкцыі памежнага перахода ў Кузніцы-Беластоцкай, які рэалізоўваўся ў рамках праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна. 9 ліпеня г.г. падляшскі ваявода падвёў вынікі выкананых праектаў.

— Пагранічны пераход у Кузніцы-Беластоцкай — гэта самы вялікі аўтамабільны пераход у Падляшскім ваяводстве і адзін з найбуйнейшых на шэнгенскай мяжы ў Польшчы. Летась сюдою прайшлі мяжу больш за 2 мільёны 600 чалавек і больш за 2 мільёны 200 транспартных сродкаў. Мы ўвесь час заклапочаныя тым, што гэты пераход лепш за ўсё падыходзіць для гэтага павелічэння руху, каб кантролі былі максімальна дакладнымі, час адправак максімальна кароткі. 10 ліпеня мы пачалі рэалізацыю двух праектаў, якія ў значнай ступені фінансуюцца ў рамках праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна, — заявіў у Кузніцы ваявода Падляшша Багдан Пашкоўскі.

Першы з праектаў — „Павышэнне прапускнасці, кантролю і бяспекі на аўтадарожным памежным пераходзе ў Кузніцы-Беластоцкай", а яго кошт склаў 1 805 328 еўра, а другі -„Рэканструкцыя павільёнаў мытнага і пашпартнага кантролю на аўтамабільным памежным пераходзе ў Кузніцы-Беластоцкай" коштам 2 130 178 еўра. Аб'ём сродкаў па праграме трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна на 2014-2020 гады складае 90% ад агульнага кошту кожнага праекта, 10% — з краёвых рэсурсаў. Каардынуюцца яны падляшскім ваяводам і падпарадкаванымі яму службамі.

Рэканструкцыя праводзілася ў партнёрстве з беларускім бокам, г.зн. Дзяржаўным мытным камітэтам Рэспублікі Беларусь у Мінску, з якім былі падпісаны два пагадненні аб партнёрстве для кожнага праекта асобна. Самай буйной і найбольш працаёмкай дзейнасцю было выкананне інвестыцыйных задач, у тым ліку будаўнічых работ і нагляду інвестараў.

— Што тычыцца самой рэканструкцыі пагранперахода — нам давялося падвесці чатыры паласы руху ў абодва бакі, і гэта таксама запатрабавала ўзвядзення стражніцы для патрэб пагранічнікаў, зносу існуючай, рэканструкцыі агароджы і блакад для прадухілення ўцёкаў, г.зв. тумбаў па ўсіх палосах, — інфармаваў ваявода.

У рамках другога праекта было праведзена частковае разбурэнне і рэканструкцыя чатырох існуючых павільёнаў мытнага і пашпартнага кантролю, пабудаваны два новыя і ўсталяваны дынамічныя шалі.

— Гэтыя мерапрыемствы дазволяць памежным службам падтрымліваць высокі ўзровень кантролю, а значыць — таксама паспрыяюць больш эфектыўнай ахове знешняй мяжы Еўрасаюза. Безумоўна, прапускная здольнасць палепшыцца, чаканне транспартных сродкаў у чарзе паскорыцца, а бяспека падарожнікаў і транспартных сродкаў павялічыцца, — разлічвае палкоўнік Анджэй Стасюлевіч, намеснік камандзіра падляшскай часці Памежнай службы.

— Перад намі шмат задач, а іх пацверджаннем — лікі. 2004 год — адкрыццё гэтага перахода і вываз каля 38 тысяч грузавых аўтамабіляў, сёння мы гаворым пра 170 тысяч, што больш чым у чатыры разы. Што тычыцца ўвозу, было каля 40 тысяч пятнаццаць гадоў таму, сёння мы гаворым пра 120 000 транспартных сродкаў — гэта ставіць перад намі новыя патрабаванні. Больш тавараў ідзе да нас з беларускага кірунку і таму стварэнне ідэальных умоў працы такое важнае, — сказаў інспектар Мацей Філанчук, кіраўнік Падляшскай мытнай і падатковай інспекцыі.

Праграма трансгранічнага супрацоўніцтва Польшча — Беларусь — Украіна ўжо 15 гадоў падтрымлівае працэсы трансгранічнага развіцця на мяжы паміж Польшчай, Беларуссю і Украінай, суфінансуючы розныя праекты.

— Яны маюць велізарнае вымярэнне для мясцовай супольнасці, перш за ўсё перакладваюцца на камфорт падарожнікаў. Рэканструкцыя перахода ў Кузніцы дазваляе павялічыць прапускную здольнасць гэтага перахода як мінімум на 60-70%. На сённяшні дзень было 800 грузавых аўтамабіляў у дзень, і на гэты момант верхняя мяжа, да якой будуць імкнуцца памежныя і мытныя службы, складае 1200-1300 машын, — заявіла Эва Стаховіч, дырэктарка Дэпартамента інфраструктуры Падляшскай ваяводскай управы.

**(лук)**

# «Шматкультурнасць Беластока гэта ўжо гісторыя» *або* Як наш горад бачыць Фларыян Келерман

**Беласток здаецца быць варотамі на Усход. Прынамсі той бліжэйшы — у Беларусь. Таму можна прыехаць туды з вялікімі спадзяваннямі і можна расчаравацца. У кантэксце дэбатаў і дыскусіі, якія праходзяць у Беластоку наконт шматкультурнасці і пытанняў адносна таго ці гэта багацце, ці баласт, ёсць і людзі, якія зусім яе не заўважаюць. Некаторым Беласток — аднастайны і калі б не помнікі ці скульптуры, якія нагадваюць аб гісторыі, мог бы здавацца адным са шматлікіх у Польшчы. І гэтым Беласток напэўна здзіўляе.**



Ці ў Беластоку перад прэзідэнцкімі выбарамі можна знайсці добрую тэму на рэпартаж? Пасля кніжкі Марціна Концкага (*Białystok. Biała siła, czarna pamięć*) магло б здавацца, што менавіта тут настроі будуць найбольш разнастайныя, так як некаторым разнастайныя явяцца сам Беласток і Падляшша. Аб атракцыйнасці горада ў кантэксце яго шматкультурнасці прайшло ўжо многа дыскусій і дэбатаў, аднак, як аказваецца, людзей, якія трапілі сюды ўпершыню і надалей Беласток можа задзівіць. Чым?

Журналіст нямецкага радыё Deutschlandfunk Фларыян Келерман наведаў Беласток у пачатку ліпеня. Ужо спачатку прыкмеціў, што жыхары хваляць горад, які змяняецца ў апошнія гады, між іншым, дзякуючы еўрасаюзным фондам. Плошча Касцюшкі, нягледзячы на каранавірус, вечарамі бурліць жыццём. Горад прываблівае і здаецца быць добрай альтэрнатывай для турыстычнай паездкі. Аднак галоўнай мэтай пабыўкі Фларыяна Келермана была падрыхтоўка журналісцкага матэрыялу на радыё. Беласток — як самы блізкі да беларускай мяжы горад — явіўся як месца скрыжавання Усходу з Захадам. Тым часам на вуліцах пераважна чуваць польскую мову. А шматкультурны Беласток падаўся госцю мястэчкам эмігрантаў. Перш за ўсё прыезджых з навакольных вёсак.

— Я нават крыху здзіўлены тым, што ў Варшаве часцей чую ўкраінскую ці расійскую мовы, — кажа Келерман. — Можа не беларускую, але здавалася, што менавіта тут, у самым блізкім горадзе да мяжы з Беларуссю будзе гэтай „усходняй" мовы больш, але не.

У Беластоку ў час каранавіруса сапраўды замоўклі мовы суседзяў з усходу. Менш пакупнікоў ці асоб, якія свой бізнес вядуць па абодвух баках мяжы. На пастаяннае жыццё таксама Беласток здаецца быць менш цікавым, чым Варшава ці іншыя заходнія гарады.

Фларыян Келерман пабываў у месцах, якія сведчаць аб шматкультурнасці горада. Сустрэўся з гараджанамі, у тым ліку са старшынёю Беластоцкага таварыства эсперантыстаў Пшэмыславам Вяжбоўскім. Менавіта Беласток часта рэкламуецца як горад, у якім нарадзіўся творца міжнароднай мовы эсперанта. Назва вуліцы ці помнік стваральніку мовы зрабілі ўражанне на госцю, чаго нельга сказаць аб свежа ўсталяваным мануменце на Сенным Рынку ў памяць пражываючых тут пратэстантаў.

— Ужо тут на месцы я зразумеў, што шматкультурнасць Беластока гэта ўжо гісторыя, — сказаў Ф. Келерман. — Бачу, што існуе беларуская меншасць, але як усе тут гавораць, яна моцна паланізуецца. Тым больш цікавіць гэта нашае радыё, бо менавіта пасля Другой сусветнай вайны наступілі перасяленні жыхароў, у тым ліку і жыхароў Падляшша.

Фларыян Келерман выдатна валодае польскай і ўкраінскай мовамі. Таксама карыстаецца расійскай, што дазволіла яму падарожнічаць па заходняй частцы Беларусі.

— Упершыню я паехаў у Беларусь у 2004 годзе, — кажа Ф. Келерман. — Цікава, што там тэмы ўвесь час адны і тыя ж. Я таксама жыў некалькі гадоў на Украіне. У гэтай краіне амаль кожны год сітуацыя дыяметральна мяняецца. На Беларусі жывыя галасы, якія я запісаў пятнаццаць гадоў таму і зараз можна было б пускаць слухачам. Надзвычай стабільная сітуацыя.

Цяжка было б з гэтым не пагадзіцца, хаця апошнім часам нават і ў Беластоку можна заўважыць, што беларуская дыяспара аб'ядноўваецца. У сталіцы Падляшша ўжо прайшлі тры акцыі ў падтрымку беларускіх палітычных дзеячаў, якія апынуліся ў турмах. У суботу (18 ліпеня) больш за паўсотні людзей сабралася на Плошчы Касцюшкі на акцыю „Стоп рэпрэсіям у Беларусі!". Лунаді беларускія бел-чырвона-белыя сцягі і сцягі польскія. Удзельнікі — гэта перш за ўсё беларуская дыяспара, якая па эканамічных ці палітычных прычынах з'ехала ў Польшчу.

— З размоў, якія я правёў у час маёй пабыўкі ў Беластоку, высвятляецца, што няма нацыянальных канфліктаў, — кажа Келерман. — Не ведаю ці сапраўды так яно і ёсць. Ведаю, што канфлікты ўзнікаюць толькі тады, калі дыскусія кранае гістарычныя тэмы. Справа праклятых жаўнераў, як аказваецца, надалей з'яўляецца спрэчнай. Паводле слоў маіх суразмоўцаў шмат хто зараз называе сябе праваслаўнымі палякамі, а ў працэсе асіміляцыі беларусаў абвінавачваецца дзяржаўная палітыка.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



Манумент на Сенным Рынку ў памяць пражываючых тут пратэстантаў

## Зёлкі, зёлкі

Дзесяць гадоў існуе пункт скупкі зёлак гайнаўскай суполкі з абмежаванай адказнасцю „Руно" ў Прэнтах Нараўчанскай гміны. Вядзе яго Вера Лукашук з Прэнтаў. Зараз зёлкавы сезон у разгары. Летнія зёлкі збіраюць і прывозяць жыхары Альхоўкі, Пасек, Прэнтаў, Лесной, Міклашэва і Семяноўкі. Сёлета „Руно" за лекавыя зёлкі плаціць больш у параўнанні з мінулым годам.

Сёлетнія цэны за кілаграм сушанага зелля ясноты (глухой крапівы) — 7 зл., сніткі — 6 зл., амялы — 4 зл., малачаю-адуванчыка — 5 зл., палыну — 4,50 зл., драсёну — 2,50 зл., марэны — 25 зл., дымніцы — 15 зл., маруны — 5 зл., манжэткі — 18 зл., гладуна — 15 зл., пастуховай сумкі — 5 зл., баркуна — 4 зл., палявога хвошчу — 6 зл. і дуброўкі гусінай — 15 зл.

Цяпер за кілаграм сушанага лісця брусніцы плаціць 14 зл., ландыша — 6 зл., крапівы — 10 зл., бярозы — 4 зл., парэчкі — 7 зл., грушы — 8 зл., яблыні — 6 зл., амялы — 7 зл., мядункі — 18 зл., падбелу — 14 зл., адуванчыка — 8 зл. і жыўакосты — 7 зл.

За карэнне крапівы можна зарабіць 9 зл., дуброўкі — 20 зл., лопуху — 12 зл., адуванчыка — 12 зл, аеру — 20 зл., кабыляка (конскага шчаўюху — 7 зл. ды жывакосты — 8 з л.

За цвет чырвонай канюшыны атрымаем 20 зл., стакроткі — 30 зл., сухацвету пясчанага — 15 зл., дзіванны — 35 зл., крываўніку — 8 зл., тавулы — 14 зл., адуванчыка — 15 зл., піжмы — 6 зл., язьміну — 25 зл., падбелу — 30 зл., валошкі — 30 зл., каштана — 20 зл., ліпы — 40 зл., шыпшыны з лісцем — 12 зл., пялёсткі ружы — 30 зл. і за драбнюсенькі цвет глухой крапівы — 250 зл.

За кілаграм сушанай кары крушыны плацяць 6 зл., вярбы г.зв. белай — 4 зл., чырвонай вярбы — 8 зл., каштана — 5 зл., дуба — 3 зл., ліпы — 6 зл. і каліны — 15 зл.

Дык збірайма цвет, лісце, зелле, кару і карэнне вышэйзгаданых раслін. Пункты скупкі „Руно" у Баб'яй Гары і Прэнтах Нараўчанскай гміне чакаюць. Калі збярэм многа лекавых раслін, тады на нашым рынку будзе больш фітапрэпаратаў, касметыкі і спецый для страў. **(яц)**

## Мы з „Нівай" зімой і летам

У некаторых вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета „Ніва" карыстаецца даволі вялікай зацікаўленасцю. Сёлетнія тры першыя ліпеньскія нумары роднай газеты чыталі жыхары Альхоўкі, Лешукоў, Новага Ляўкова (найбольш), Старога Ляўкова, Нараўкі, Новін, Падляўкова, Плянты і Семяноўкі. Зацікавіў я „Нівай" некаторых жыхароў Саўлян Супрасльскай гміны Беластоцкага павета, між іншым, сям'ю Матысаў. Беларускі часопіс трапіў у Сушчу над ракой Нарвай, дзе завезла яго Крыстына Крэнтоўская, жыхарка таго сяла, дачка солтыса.

Мне таксама вядома, што беларускі часопіс чыталі дочкі мае сястры Аліна Клімчук і Галена Грыка, якія жывуць у Беластоку. Яны прыехалі ў аднаўленую бацькоўскую хату ў Старым Ляўкове на Пятра і Паўла і я прывёз ім „Ніву".

Зараз паеду ў вёскі, якія па дарозе з Нараўкі ў Семяноўку цераз Альхоўку, між іншым, у невялікія лясныя сёлы Прэнты і Пасекі. У Прэнтах у прыгожай хаце жыве наша чытачка Вера Лукашук, якая шмат гадоў вядзе пункт скупкі лекавых зёлак.

У „Ніве" ёсць шмат цікавых артыкулаў, допісаў і фельетонаў, былі рэпартажы і даволі многа фотаздымкаў. Былі тэксты з Нараўчанскай гміны.

Нашы чытачы — людзі адкрытыя і неабыякавыя да беларускай мовы. Яны чытаюць беларускі штотыднёвік, каб не развучыцца чытаць і пісаць па-беларуску. „Ніву" трэба купляць і чытаць. Беларускі тыднёвік найбольш ды цікава піша пра нас, беларусаў ды пра важнейшыя падзеі на Беласточчыне. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Бяздумнае выкіданне смецця

Чаго напэўна не варта рабіць у час канікулаў? Не смецціць! Нехта мог бы падумаць, што ўжо ўсе аб гэтым ведаюць. Колькі разоў мы супольна са школай хадзілі на акцыі прымеркаваныя да Свята зямлі і прыбіралі ваколіцу? Колькі разоў заклікалі настаўнікі ці эколагі, каб берагчы асяроддзе? Не гаворачы ўжо пра нашых бацькоў ці бабуль, якія неаднойчы лес лічаць сваім другім домам. Хто не любіць залацістай восенню пайсці ў лес з кошыкам у грыбы? Або хто не цешыцца спевам птушак, збіраючы салодкія ягады? Усе любім чысценькія месцы, бо там нам проста ўтульна. І зараз уявіце сабе, што дзеці з Гарадоцкай гміны ў сваіх лясах не шукалі грыбоў ці ягад а менавіта смецця!

— Калі мы рабілі апытанку, то ўсе гаварылі, што тут наогул не выкідваецца смецця, — кажа ўдзельніца летніка Клаўдзія з Залук. — Аднак у лясах мы знайшлі месцы, дзе ляжала многа рэчаў, якія павінны апынуцца ў сметніцах.

Можна сказаць, што дзеці ў час летніка правялі своеасаблівае следства, якое даказала, што сярод нас, на жаль, заўсёды знойдуцца і тыя, якія смецце возяць у лес. Гэта сведчыць аб тым, што некаторыя не памятаюць, што лес таксама з'яўляецца домам. Жывуць тут многія звяры і насякомыя, якія часта праз такія „людскія адкіды”, хварэюць, калечацца або нават паміраюць.

— Вы нават сабе не ўяўляеце колькі здохлых жукоў мы знайшлі ў пустых банках, — тлумачыў усхваляваны Бенё. — Мне пасля такога прыбірання лесу ад убачанага забалеў страўнік.

Такія непрыемныя ўспаміны з дзікіх звалак удзельнікам летніка кампенсавала творчая праца. Мусіце ведаць, што дзеці не толькі прыбралі ваколіцу, але і па-мастацку гулялі. Вазкі, чалавечкі ці бубны — усё гэта ўдзельнікі летніка зрабілі са смецця, якое знайшлі ў навакольных лясах.











— Мы гэта ўсё зрабілі самастойна. Цяжка паверыць, але сапраўды ў лясах можна знайсці амаль усё, — упэўнена сказаў Бенё.

Двухтыднёвы летнік „Лета ў тэатры” гэтым разам завяршыўся спектаклем аб экалогіі, які можна было пабачыць у Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку, а таксама ў мясцовасці Боркі, дзе сваю сядзібу мае заснавальнік Тэатра „Лятарня” Матэвуш Тымура. Варта дадаць, што падвядзенне летніка прайшло сапраўды шумна і весела. Можна было пачуць мудрыя казы пра прыроду, якая стварае нашу рэчаіснасць ці аб экалогіі, якая залежыць ад нас, а мы ад яе. Гэтыя ўсе веды плылі да нашых адкрытых галовак пры гуках бубнаў, зробленых з выкінутых збанкоў і бразготак са старых банак.

— Я вельмі цешуся, што пабывала на летніку, — прызналася Дар'я. — Тут я пазнаёмілася з іншымі цікавымі асобамі і ў канцы магла пабываць далёка ад хаты.

Такія незвычайныя ўрокі не здараюцца часта, тым больш што ўдзельнікі мелі магчымасць чэрпаць веды ды інспіравацца сапраўды творчымі і вопытнымі людзьмі. Вас, дарагія ўдзельнікі летніка, сапраўды можна палічыць героямі сёлетніх канікулаў, якія сталі свядомымі карыстальнікамі прыроды. Варта такім вопытам у верасні падзяліцца са школьнымі сябрамі, каб і яны ведалі, якія паслядоўнасці нясе з сабою бяздумнае выкіданне смецця.

**Тэкст і фота Уршулі Шубзды**

## УВАГА КОНКУРС! № 30-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 2 жніўня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Ад мух ахоўвае ён бор,**
**Завём яго мы...**
**М......**
**(Міхась Пазнякоў)**

**Загадкі з роднай хаткі**

**Адказ на загадку № 26: рак. Узнагароды, кашулькі з лагатыпам «Сустрэч Зоркі», выйграла Эва Петрышык. Віншуем!**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**САРОКА** — гэтую стракатую і надта цікаўную птушку беларусы назначалі дэманічнымі рысамі. Паводле народных уяўленняў у сарок маглі перакідацца ведзьмы. Чорна-белы касцюм птушкі тлумачыўся легендай. Бог загадаў птушкам пачысціць са смецця вадаёмы, а лянівая сарока схітрыла і вымазалася граззю, быццам і яна працавала крок у крок з іншымі. Яшчэ і пляткарыла, зняславіла каршуна, які паводле яе нічога не рабіў, а толькі заганяў іншых да працы. Калі пра гэта даведаўся Бог, ён зрабіў так, каб гразь назаўсёды прыліпла да белага пер'я і сарока ад тае пары зрабілася назаўсёды чорна-белай. А каршун па наш дзень праследуе птушку-пляткарку і ашуканку.

У народзе сароку лічаць разносчыцай навін. Яна таксама прыносіць добрыя навіны. Вось калі птушка з'яўляецца на страсе ці варотах і стракоча — значыць: едуць госці. А калі яна прысядзе на раме акна — народзіцца ў сям'і дзіцятка. Яшчэ стракатанне магло нашым продкам прадвяшчаць дождж.

Гэтую дзіўную, аднак надта прыгожую птушку палюбілі мастакі, таму яна часты элемент карцін і народных вышыванак. Сароку таксама выкарыстоўвалі ў народнай медыцыне — знахары ўпаміналі яе ў замовах ад сурокаў і хвароб. Спакон вякоў захавалася такая замова: «Сарока з колу злятае — з маёй кароўкі ўрокі здымае». Таму птушку, як і плеткароў сярод людзей, лічылі надта патрэбнай у грамадзе.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

Фота ГК

Міра ЛУКША

## Сарока

Стракоча сарока  
белабокая,  
дзе толькі цікавае  
выцікуе:  
ці выйдзе хтосьці  
на каву,  
з сарокай  
пакпінкуе,  
сароцы падтакне  
ў акне,  
пракаментуе,  
што не так,  
смачным пачастуе,  
а калі не,  
убачыць у акне,  
што ты там маеш  
(не адчыняеш?!),  
дык сарока сама,  
ой, хітра яна,  
пакаштуе,  
пасмакуе,  
возьме ў дзюбу  
смакоцце любае,  
але і цацку  
ўхопіць з грацыяй,  
без дай рацыі,  
і пярсцёнак  
твой запаветны  
стане сарочым  
амулетам.  
А куды панясе  
скарбы ўсе?  
Куды ўсё паклала?  
Тры змайстравала  
гнёзды дабротныя,  
спрытная, паваротлівая,  
а жыве ў адным.  
А з кім?  
Дзетак шасцёра,  
бела-чарнапёрых.  
Матуля сарока  
кашку варыла,  
дзетак карміла.  
Аднаму дала,  
другому дала...  
А потым  
фыррр! – паляцела.

# Рыба па-заморску

***(рэцэпт ад Анатоля Заморскага з Зэльвы)***

Час на рыбу з тушанай гароднінай, прапанаванай «Беларускай кухняй» аўтарства Юрыя Качука. Гэтую страву называюць у нас «рыба па-грэцку», а ў суседняй Украіне «рыба па-партугальску». Зэльвенскі назоў вельмі прыгожы, а страва смачная і ў пэўным сэнсе арыгінальная, бо замест памідораў і таматнага соўсу слаўны кухар прапануе маянэз. Сама страва сыходная з сезонам на рыбалку.

**Складнікі:**

1.05 рыбы (скумбрыі, шчупака, карпа)  
300 грам морквы  
300 грам цыбулі  
1,5 струка чырвонага перцу (папрыкі)  
2 лыжкі алею  
2 лыжкі маянэзу  
соль  
зеляніна пятрушкі

Рыбу ачысціць вытрыбушыць, выдаліць жабры і іклы, пасаліць, паперчыць, нашмараваць маянэзам. Цыбулю нашаткаваць, моркву нацерці на буйнай тарцы, падсмажыць на алеі, дадаўшы солі і перцу.

Салодкі перац нарэзаць саломкай, зяляніну пятрушкі насекчы і далучыць да падсмажаных цыбулі, морквы, перамяшаць. Адной часткай агародніны накрыць рыбу, другую частку агародніны пакласці на кулінарную фольгу, усё загарнуць у фольгу і запякаць у духоўцы 1 гадзіну.

Рыбу спажываць з рысам або маласольным агурочкам.

Смачна есці!

***(гак)***

# Польска-беларуская крыжаванка № 30-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26-20:**

Страўс, мір, рус, маліны, талон, канікулы, ранец, Сі, перац, праца, Ігар. Сорам, рыс, капа, танец, манера, сталіца, лок, ці, мінус, ліпа, грыбы.

Узнагароды, аўтарычкі, выйгралі **Мілена Федарук** і **Аліўка Нармантовіч.** Віншуем!

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Symbol | Dźwig | Kreta | Rany | | Kopa<br>Nos | | | | |
| | Sianokosy | Sęk | | Klan | | | | | Krewni | Płaskowyż<br>Miętka | | Hej! Cześć! |
| | Mikrokosmos | | | | | | | | | | | |
| | | Młyn<br>Spód | | | | | Mak<br>Święto | | | | | |
| | Swaty<br>Stół | | | | | | Ada | Atol | | | | |
| | Pan | | | | Kamień | | | | | | Bierz | |
| | | | | Bierz | | | | Kant | | | | |
| | | | Korale | | | | | | | | | |

# Распалітыкаваныя сяляне

**(ч. 6)**

І тут, о дзіва, выбралі свабоду сярод бальшавікоў Савецкай Беларусі.

А зноў, калі б чалавек ведаў, куды ўпадзе — то сеў бы. На жаль, такая ўжо праўда.

Хачу таксам прыпомніць, што і Тараса паліцыя мучыла, калі шукалі яго сына Андрэя. Пяты яго ног прыкладалі да распаленай пліты, каб ён паказаў месца знаходжання атрада партызан, як агульна звалі бандытаў, і ён па гэтых здзеках завёў паліцыю ў тую зямлянку сярод Белавежскай пушчы, выкапаную партызанамі не так даўно, але яна была пустой і героі ўспелі ўцячы. Але гэта мала змяніла сітуацыю і кончылася тым, што я ўжо напісаў.

А мой бацька, дзядзькі некалькі ладных гадоў пасвілі быдла, свіней у выбраных вёсках. Падрасталі, набіралі сілы і думалі, як далей жыць і гаспадарылі, як усе жыхары.

Памятаю, як бацька калісьці расказваў, як усе ўжо вярнуліся з Расіі, у нашым канцы «Крынічына» жыў малады хлопец (яго імя, на жаль, не памятаю). Ён недзе на полі знайшоў прыгожую, бліскучую на від люльку, і цешыўся ёю, і круціў, і з цікавасцю пачаў яе разбіраць. І тут пачуўся ўзрыў і люлька стала смерцю для чалавека, бо забаўка разарвала яго на кавалкі. А гэта была міна з вайны. Значыць, і тут былі ўсталяваны такія забаўкі, а ўжо пасля Другой сусветнай вайны нашы палеткі, лугі, лясы раіліся ад такіх люлек-мін, снарадаў, бомб... І колькі людзей (найбольш дзеці) з-за сваёй цікаўнасці заплацілі сваім жыццём і вечным калецтвам.

І яшчэ вярнуся да Андрэя Тамашука, нашага героя, як і ахвяры. Дык ён быў і паэтам, і складаў (і напэўна пісаў) цікавыя гумарыстычныя вершы і героямі яго твораў былі дубічляне. Старыя людзі добра іх помнілі, але яны ўжо паўміралі, а з маладых іх ніхто не запісаў, у тым ліку і я сам. І вельмі шкадую. Помню, калісьці, як мы ўжо амаль былі кавалеркай, адзін дзядзька з Туркаў (адна палавіна Дубіч з боку Тафілаўцаў) Фёдар Семянюк у нашым натоўпе працытаваў нам верш Андрэя пра адну слаўную маладзіцу, якая жыла ў нас. Запаматаліся толькі першыя словы верша: «Наша Насця — яна цыца, наша слаўна маладзіца...» а далей, забійце мяне, не помню. А чаму ж не запісаў гэтага доўгага верша на паперы? Шкадую вельмі. І сапраўды Насця мела выдатныя цыцы і не толькі, і відаць Андрэй быў закаханы ў яе. Дык гэты верш узбагаціў бы нашу гісторыю і фальклор. А так? Пішы — прапала. І шкада, што наш паэт кінуўся ў дурную палітыку і загінуў у такім маладым узросце і мы страцілі назаўсёды свайго паэта, а то і вялікага...



А Трафім ужо адлучыўся ад нашай сям'і і кінуўся ў палітыку, і аднойчы нават перакрочыў мяжу і апынуўся на тэрыторыі Савецкай Беларусі (сам на вечарках у мяне расказваў гэта) і думаў, што яго з адкрытымі рукамі там будуць вітаць. А тут у будынку бліжэйшай міліцыі, а мо НКВД нейкая маладая супрацоўніца аблаяла яго з ног да галавы і скора адправілі ў Польшчу, як кажуць, з каўбасою. Мой сваяк меў вялікі жаль да гэтай установы і той дзяўчыны. А павінен і то шчыра ім за гэта падзякаваць, бо калі б застаўся ў савецкім раю, дык яго лёс быў бы таксама такі, як гэтых змагароў, якіх ахапіла чыстка ў 1937-1938 гадах; тых, што ад нас уцякалі і там апынуліся, як напрыклад Герман Шыманюк з Грабаўца. А былі іх тысячы, што паверылі ў бальшавіцкую фальшывую прапаганду. І лічыць, што ўсе нашы людзі ў гэту байку паверылі. Ясна, гладкі язык можа многа, многа ўчыніць, а найбольш зла. І гэтыя многія пераканаліся, у тым ліку і я сам. Трафім пасля ўступіў у КПЗБ і дзейнічаў ды за гэта быў арыштаваны і ў 1937 годзе быў асуджаны на тры гады польскай турмы. Сядзеў у Беластоку і яшчэ цяжкія там былі абставіны, дык выдатна вывучыў у турме беларускую літаратурную мову, у тым ліку граматыку аўтарства Браніслава Тарашкевіча. У царскі час нашай беларускай літаратурнай мовы ў школах не вучылі. І тут узнікае парадокс ці свайго роду кантраст: наш герой вывучыў беларускую мову, а ці ў той час вязень савецкага лагера ці турмы там, у савецкім раю, мог гэта ўчыніць і здабыць? Абсалютна ніколі, і за такое вязень мог бы дастаць ці то з лёгкай рукі дадатковыя дзесяць гадоў турмы, а то нават расстрэл. На жаль, такая праўда.

Трахім вярнуўся дамоў у 1930 годзе і яго віталі, як героя. У адной хаце камуністы і многія жыхары вёскі зрабілі нават свайго роду баль з пачастункамі і гарэлкай. Скора Трафім ажаніўся і жонка яго Маруся паходзіла з роду Марчукоў. Аднак сваю камуністычную дзейнасць ён не спыніў, бо свята верыў у гэтую ідэю, як і ўся сям'я: дзядзькі, бацька... Перад сваім вяселлем Трафім Панфілюк са сваім старэйшым сватам Грышам Лемешам — абое камуністы — таргаваліся з бацюшкам, каб той менш узяў грошай за вянец, кажучы, што вянец нічога не дае і гэта толькі абрад. А бацюшка адказаў: дык можаце не вянчацца... Але неяк дайшлі да згоды. Трафім павянчаўся і не парушыў гэтага абраду.

А дзядзькі сталі дарослымі і кожны думаў, як жыць далей і завесці сям'ю і які лёс чакае іх далей. Першы ажаніўся дзядзька Федзя (Феадосій) — пайшоў у прымы ў вёску Малыя Пасечнікі, блізка Белавежскай пушчы. Жонка яго, Верка, паходзіла ад нейкага Аверкі, бо так зваўся яе бацька. Нават не ведаю яго прозвішча. Аверка бурчаў і быў злосны, калі малады зяць і прымак не прывёз сваёй гарэлкі на вяселле маладой (відаць, там такі быў звычай, у нас яго няма) і мармытаў: «спадзяваўся дзед на мед, а лёг спаць не ў пор». Дзіўная прымаўка. Але гэта менш важна. Што ж, такая была традыцыя і культура, і людзі былі мала граматныя. А сёння ўсе граматныя, але сярод маладых, у іх натоўпе і пераважна ў горадзе, толькі і чуваць словы к... і іншыя салоныя прыказкі. І я дайшоў да вываду, што і найбольшая школа не заўсёды вучня давядзе да поўнай культуры і пашаны да чалавека. Гэта не малы працэс і ён праходзіць праз трыбы цярпення, узлёту, падзення і поўнай веры ва Усявышняга. Калі вера толькі напаказ і ў хвальбе сябе, чалавек мала зменіцца духова і эмацыянальна. І кожны чалавек павінен духова працаваць над сабою, і каб розныя эмоцыі не пераважалі над ім. Калі ён гэту барацьбу пераможа — дык барані яго Божа. Тады ён не будзе скваліны на гарэлку, лаянку і злыя ўчынкі і будзе шанаваць свой народ, яго культуру, спадчыну і, галоўнае, сваю родную, у тым ліку беларускую — мову. І на шчасце, маем такіх аддадзеных справе людзей, хаця б усіх працаўнікоў роднай «Нівы»; усіх прадстаўнікоў і членаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, усіх членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» — нашых пачэсных і здольных празаікаў і паэтаў; і навукоўцаў і настаўнікаў, якія ў школах вучаць нашых дзетак беларускай роднай мове і вучняў, якія пільна і з верай гэта прымаюць у свае сэрцы і душы; усіх бацюшкаў, якія таксама гэты працэс узбагачаюць сваёй службай, пропаведзямі і малітвамі. І нізка я перад імі ўсімі кланяюся, а таксама перад тымі, якія ад нараджэння, ад лона мацеры трымаюцца сваіх родных каранёў і мо яны можа менш граматныя, але моцныя як дуб і сталь.

Што ж, зноў вярнуся я да сваёй сям'і і роднай вёскі і некаторых навакольных сядзіб.

У 1929 годзе дзядзькі Мішка, Ванька, Мяфодзій (і мой бацька дапамагаў) пабудавалі на сваім падворку (дзе цяпер стаіць мой драўляны дом) вялікі драўляны дом з пяцісцялёвых дылёў з пушчанскага лесу. Хоць самі былі майстры, але яшчэ пачаткоўцы; дом ставіў майстар з Палічнай і пакрылі яго белай прыгожай ацынкаванай і моцнай бляхай (сёння няма такой бляхі) і пачалі жыць, працаваць на сваіх палетках, лугах..., якія былі раскіданы ва многіх месцах дубіцкай тэрыторыі, як цераспалосіца і цягнуліся кіламетрамі ў даўжыню. І я іх помню, бо яны яшчэ існавалі сем гадоў пасля вайны, апошняй вайны.

Пасля мой бацька ажаніўся ў 1930 годзе з мясцовай дзяўчынай, круглай сіратой Марыяй Чыквін, якая жыла ў свайго дзядзькі Пятра і яго сям'і; сыны яго Міхал, Павел, пасля ўсім вядомыя майстры і цесляры, як іх бацька Пятро, які яшчэ прыгожа іграў на скрыпцы і сам гэтыя інструменты з вялікай стараннасцю і якасцю выраблаў як высокага класа лютнік.

Мая бабулька па мацеры (маці маёй мамы) звалася Зінаіда з дому Невядомскіх з вёскі Вітава і выйшла замуж за майго дзеда Данілу праўдападобна недзе ў 1905 годзе. Нарадзілася ў іх двое дзетак, дзве дачкі: мая мама Марыя і цётка Вера. Бабулька Зінаіда скора памерла. Мая мама Марыя яе не памятала. І засталіся дзве сіроткі. Дзед Даніла Чыквін ажаніўся і ў сям'і была ўжо мачаха, не памятаю яе імя — маці калісьці мне казала, але забыўся. І тут скора вайна 1914 года і прычыны яе загадкавыя і няясныя (я пра гэта ўжо пісаў). Але ёсць яшчэ і трэцяя прычына і хто ведае ці можа не самая верная; царскую Расію пагубіла наіўнасць і блізарукасць тупых міністраў яе ўрада, а таксама наіўнасць і блізарукасць і фанатызм царкоўнасці самога імператара Мікалая ІІ Раманава. Бо гэта яны аб'явілі вайну з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй пасля сараеўскіх падзей 28 чэрвеня 1914 года, дзе быў забіты прынц і наследнік трона Францішак Фердынанд і яго жонка Сафія. І ясна, германцы з двух старон аб'явілі вайну Сербіі і напалі на гэтую краіну і толькі на яе. Але ж трэба было бараніць сваіх братоў праваслаўных там на Балканах, і пайшло... Адзін быў толькі разумны чалавек ва ўрадзе цара, а быў гэта граф Сяргей Вітэ, міністр фінансаў, палітык, які правёў мудрую грашовую рэформу, заснаваную на золаце. Гэта ён адзін быў рашучы праціўнік вайны, бо ведаў, што пасля яе заканчэння Расіі наступіць крах і канец. Такой самай думкі трымаўся і Грыгорый Распуцін, чалавек амаль няграматны, фаварыт цара і яго жонкі Аляксандры. І ён тое самае гаварыў: вайна — гэта канец Расійскай імперыі і самога цара і амаль усяго яго роду. І так сталася, прытым скора. Значыць, прасты сібірскі брудны мужык быў разумнейшым за цара і яго паплечнікаў. Мо гэта я лішне пішу, але думаю, што не зашкодзіць у нічым; хай маладое пакаленне больш ведае пра гэтыя падзеі, бо ў гісторыі пра гэта мала гавораць, а калі і гаворыцца, дык аднолькава і з намёкамі.

Яшчэ вернемся да тэмы бежанства.

І дзед Даніла, мачаха і двое дзетак на фурманках ехалі ў невядомую Расію, як тысячы іншых бежанцаў. Дзед Даніла яшчэ ўспеў сфатаграфавацца са сваім братам Пятром Чыквіным ужо ў Расіі, на пачатку. Гэты фотаздымак у мяне ёсць. І скора дзед памёр восенню 1915 года. Мая мама, цётка Вера ехалі туды яшчэ дзецьмі, бо маці нарадзілася 27 студзеня 1910 года, а калі нарадзілася яе сястра, не ведаю. У дарозе Вера захварэла тыфам і яе ўзялі ў бальніцу-прытулак у нейкім мястэчку ў Расіі. Далейшага лёсу Веры не ведаю, найхутчэй яна там памерла, але мая мама не раз паўтарала: «А мо дзе ў Расіі жыве мая сястрычка Вера?»...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

Нагода

# Імгненні-знаходкі з біяграфіі Гальяша Леўчыка

Шмат гадоў збіраю звесткі пра свайго земляка, беларускага паэта, публіцыста, калекцыянера, мастака і музыканта Гальяша Леўчыка (1880-1944), якому 20 ліпеня спаўняецца 140 гадоў з дня нараджэння. Пры жыцці Гальяшу Леўчыку пашчасціла выдаць і патрымаць у руках толькі адзіны зборнік вершаў „Чыжык беларускі” (Вільня 1912). А ў 1980 годзе Янка Саламевіч сабраў яго лепшыя творы і склаў невялікую кніжачку „Доля і хлеб”.

За гады пошукаў звестак пра свайго таленавітага земляка мне пашанцавала сабраць дзясяткі яго невядомых раней твораў, цікавых біяграфічных фактаў, фотаздымкаў, лістоў. Некалькі імгненняўзнаходак з біяграфіі Гальяша Леўчыка прапаную сёння чытачам „Нівы”.

**Партрэт Францыска Скарыны**

У прыватным архіве літаратуразнаўца і краязнаўца Міхася Казлоўскага з Маладзечна захоўваецца ўнікальны і раней нікому невядомы партрэт беларускага асветніка і першадрукара Францішка Скарыны. Гэты партрэт быў намаляваны Гальяшом Леўчыкам напачатку XX стагоддзя. Партрэт Скарыны мастака Леўчыка Міхасю Казлоўскаму падараваў некалі энцыклапедыст і літаратуразнавец Янка Саламевіч (1938-2012). Дарэчы, Янка Саламевіч даследаваў творчасць Гальяша Леўчыка і выдаў да яго 100-годдзя вышэйзгаданую невялікую кнігу выбраных твораў. Відаць тады і трапіў да Саламевіча гэты партрэт першадрукара. Як мастак Гальяш Леўчык мала даследаваны, і захавалася не так і шмат яго твораў. Вядома толькі, што свой першы зборнік вершаў „Чыжык беларускі” Гальяш Леўчык сам афармляў.

**Ліст Янкі Купалы**

Першы паэтычны зборнік „Чыжык беларускі” Гальяша Леўчыка рэдагаваў Янка Купала. Ён выйшаў з друку лацінкай. Але планаваўся і кірыліцай.

У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага захоўваецца пісьмо Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка (СКМ КП 5889/Ф1693). Народны паэт Беларусі пісаў яму ў лютым 1914 года: „Паважаны Пане! Вашага „Чыжыка” аддалі ўжо друкаваць рускімі літарамі. Будзьце ласкавы прыслаць як найхутчэй клішэ вокладкі і Вашай фатаграфіі. Калі маеце зрабіць якія папраўкі, то прышліце папраўлены экземпляр. Астаюся са шчырай да Вас пашанай, сакратар Беларускага Выдавецтва Ів. Луцэвіч. Вільна, 7.II.14 г.

P.S. Апошнюю карэктуру кніжкі прасілі б, каб Вы самі зрабілі. Ів. Л.”.

На вялікі жаль, кірыліцай зборнік вершаў слонімскага паэта так і не пабачыў свету, бо пачалася Першая сусветная вайна. А вось пісьмо Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка зберaглося да сённяшніх дзён.



Паштоўка Альжбета Аляшкевіч — дачкі роднай сястры Гальяша Леўчыка



Беларускае Выдавецкае ТАВАРЫСТВО
ВІЛЬНЯ, д. № 5, кв. 4.

Biełaruskaje Wydawieckaje TAWARYSTWO
WILNIA, d. № 5, kw. 4.

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВО Вільня, Каштанова д. № 5, кв. 4.

Пісьмо Янкі Купалы да Гальяша Леўчыка

**Паштоўка ад пляменніцы**

Некалі слонімскі паэт Анатоль Іверс (1912-1999) мне казаў, што наша гісторыя — побач, толькі трэба яе ўмець шукаць, каб не страціць таго, што яшчэ захоўваецца ў прыватных архівах. І гэта так. Запрасіў на днях мяне старэйшы слонімскі мастак Пятро Фёдаравіч Бурсевіч да сябе ў госці, каб я пераглядзеў яго фотаархіў, можа што карыснае для сябе знайду. І што вы думаеце — знайшоў. І знаходка аказалася даволі ўнікальнай.

Сярод усіх сямейных фотаздымкаў у рукі трапілася паштоўка з выявaю Слоніма, выпушчаная крамай Бера Любоўскага на Студэнцкай вуліцы ў Слоніме ў 1914 годзе. Цікавай аказалася не толькі сама паштоўка, але і тэкст, з адваротнага боку. Ён напісаны па-польску і некалькі адрасных радкоў выведзены па-расійску. У перакладзе на беларускую мову тэкст гучыць так:

„Любімы Дзядзечка! У нас нічога новага не чуваць. Усе мы здаровы. Тым часам у нас у Слоніме спакойна. Невядома, як будзе далей. Прашу напісаць нам, што там дзеецца ў Варшаве. Калі вельмі небяспечна, то прашу ўцякаць да нас. На тым — да пабачэння. Альжбета Аляшкевіч” (Elżbieta Oleszkiewicz).

Зверху паштоўкі няпоўная дата. Са штампа можна меркаваць, што адпраўлена яна была 28 лістапада 1914 года, калі ў Варшаве пачалася эвакуацыя ўстаноў, заводаў, чыноўнікаў і рабочых на Усход, звязаная з Першай сусветнай вайной.

Аказалася, што паштоўка адрасавалася Гальяшу Леўчыку, які быў родам са Слоніма, а часова пражываў і працаваў у Варшаве. Сапраўднае прозвішча Гальяша Леўчыка было Ляўковіч Ільля Міхайлавіч. Паштоўку са Слоніма напісала яго пляменніца Альжбета Аляшкевіч — дачка роднай сястры Гальяша Леўчыка. Зварот „wujaszek” (дзядзечка) можа ўказваць, што гэта менавіта дачка сястры Леўчыка.

Сапраўды, у Гальяша Леўчыка была родная сятра Эмілія (Аміля). Сяргей Хмара ў кнізе „Рабінавы хмель” (Мінск 2009, с. 148) прыгадвае: „Сустракаліся мы з ім (маецца на ўвазе з Гальяшом Леўчыкам — С. Ч.) у Слоніме, у доме ягонай сястры, якая выйшла замуж за нейкага гарадскога ўрадоўца і размаўляла на польскай мове”.

чытайце ☞ 10



Фотаздымак Гальяша Леўчыка з першага зборніка, 1912 год



Гальяш Леўчык у Варшаве, 1941 год

9 ☞ працяг

# Гальяш Леўчык

Сястра Эмілія рана памерла ад сухотаў. У яе была дачка Альжбета Аляшкевіч. Значыць і прозвішча сястры Леўчыка было Аляшкевіч. Бачна па тэксце гэтай паштоўкі, што пляменніца перапісвалася са сваім знакамітым дзядзькам, шчыра яго паважала і любіла. Яна і піша, што калі ў Варшаве кепска, дык каб той уцякаў да іх у Слонім.

Як склаўся лёс роднай пляменніцы Гальяша Леўчыка — пакуль невядома. Ці яна жыла ў Слоніме, ці куды выехала — таксама застаецца таямніцай. Пытанняў вельмі шмат. Але адказы на іх паціху разгадваюцца.

**Невыдадзеная кніга трыялетаў**

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык найперш вельмі хацеў выдаць свае трыялеты і шукаў выдаўца. І ён яго знайшоў у асобе Уладзіслава Знамяроўскага. Больш таго, у кастрычніку 1927 года паэт заключыў з ім і яго жонкай Марыяй Знамяроўскай пісьмовую дамову на выдавецтва беларускіх кніжак фірмаю „Кніжніца". Аднак, відаць, з гэтай дамовы нічога не атрымалася. Знамяроўскі, атрымаўшы ад Леўчыка 400 злотых на выданне зборніка трыялетаў, перастаў пісаць да яго. І ў пісьме ад 30 лістапада 1927 года паэт абрушыўся на выдаўца за тое, што хоча развaліць „Кніжніцу" і за тое, што не хоча друкаваць твораў.



Францыск Скарына

Праз дзесяць дзён прыслаў адказ Знамяроўскі. Ён паведамляў, што затрымка выйшла з-за таго, што завод не адліў новага шрыфту, а старым не варта набіраць. Нарэшце шрыфт быў куплены. І Знамяроўскі ў пісьме ад 16 красавіка 1928 года пісаў Леўчыку, што паслаў яму карэктуру трыялетаў, а дагэтуль яшчэ назад не атрымаў. У наступным пісьме ад 22 красавіка Знамяроўскі просіць Леўчыка прыслаць яму 100 злотых на паперу, якая закладзена ў банку, і на паперу на вокладку, а „то кніжка будзе ляжаць да канца свету". Пры гэтым Знамяроўскі зганьбіў трыялеты Леўчыка.

Тады паэт звяртаецца па дапамогу да Янкі Маразовіча, Ігната Дварчаніна, Ігната Мятлы, Міколы Шылы і іншых віленскіх сяброў. Ён піша ім, што Знамяроўскі выпрасіў яшчэ 25 злотых, а кніжку дагэтуль не выдае. Леўчык просіць, каб яны знайшлі якуюсь раду на „шахрая Знамяроўскага, які тады енчыў перада мною, што няма работы і няма з чаго жыць".

Пакуль не знайшлося доказаў наконт таго, ці дапамаглі сябры Гальяшу Леўчыку вярнуць грошы, ці не. А кніжка трыялетаў яго ў Вільні так і не пабачыла свету. Вось адзін з тых трыялетаў:

Жаваранкаў песні носяцца над нівай.
Беларуса цяжкі раздаецца стогн —
Слёзны пот ліецца з галованькі сівай...
Жаваранкаў песні носяцца над нівай.

Беларус не мае вольнае, шчаслівай
Бацькаўшчыны, толькі вузкі свой загон.
Жаваранкаў песні носяцца над нівай,
І ратай іх чуе, як прызыўны звон!

Сяргей ЧЫГРЫН



http://church.by

У адрозненні ад Польшчы, дзе беларус можа быць толькі праваслаўным, у Беларусі сітуацыя іншая. Там існуюць, напрыклад, беларусы-каталікі. І найбольш цікавым з'яўляецца тое, што ў касцёлах часцей можна пачуць беларускую мову, чым у праваслаўных цэрквах. Пры гэтым нельга сказаць, што праваслаўе ў Беларусі неяк варожа ставіцца да беларускай мовы — можна знайсці, хоць і ў невялікай колькасці, выданні пабеларуску, некаторыя святары, якіх праўда вельмі мала, нават выкарыстоўваюць час ад часу беларускую мову. І хоць галоўны першаіерарх Беларускай праваслаўнай царквы (БПЦ) мітрапаліт Павел не толькі не размаўляе па-беларуску, але і не мае беларускага грамадзянства, на царкоўным сайце ёсць беларуская версія.

Калі цікавы карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **www.church.by**, а потым абярэ беларускамоўную версію афіцыйнага сайта БПЦ, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прывабнае выяўленне, выкананае ў светла-блакітных колерах. З правага боку пад выйсцямі да рубрык месяцца партрэты таго ж мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага, экзарха ўсяе Беларусі Паўла, а таксама ганаровага патрыяршага экзарха, мітрапаліта Філарэта. Там жа, клікнуўшы на адпаведныя спасылкі, можна даведацца аб іх біяграфіі і дзейнасці.

Паколькі сайт мае дзве моўныя версіі — рускую і беларускую, то ёсць магчымасць параўнаць абедзве і ўбачыць, якая ў прыярытэце. Так, даты апошніх навін пабеларуску на тры-чатыры дні адстаюць ад сваіх рускамоўных версій. Пры гэтым трэба прызнаць, што навіны абнаўляюцца даволі аператыўна. Акрамя таго, ёсць як фота-, так і відэааздабленні тэкстаў.

Сярод іншых рубрык сайта, выйсці на якія знаходзяцца ўверсе цэлага выяўлення, асабліва цікавай падаецца „Беларускі Экзархат", бо ў ёй месціцца расповед пра гісторыю праваслаўнай царквы на беларускіх землях. Там у даволі сціслай, але змястоўнай форме выкладзена мінуўшчына праваслаўя і яго сучасны стан.

„Распаўсюджванне хрысціянства ў межах сучаснай Беларусі пачалося даволі рана. Гэтаму садзейнічала тое, што яшчэ ў IX-XX стст. продкі беларусаў: крывічы, дрыгавічы і радзімічы кантактавалі з варагамі, а таксама з гандлярамі, якія карысталіся знакамітым шляхам «з варагаў у грэкі», па рэках Заходняя Дзвіна і Дняпро. Сярод гэтых людзей сустракаліся хрысціяне, якія неслі сведчанні пра Уваскрэслага Госпада нашага і Збаўцу Ісуса Хрыста", — так пачынаецца расповед пра пачаткі з'яўлення хрысціянства на тэрыторыях, дзе цяпер жывуць беларусы. У той жа рубрыцы можна даведацца пра ўсе праваслаўныя епархіі ў Беларусі.

Вартай увагі з'яўляецца і рубрыка „Дакументы". Там сярод іншага знаходзіцца заява агульнага сходу Мінскай епархіі ад 20 снежня 2018 года датычна правядзення „так званага аб'яднальнага сабора ў Кіеве і стварэнне на Украіне новай псеўдацаркоўнай структуры". Ужо з гэтых слоў зразумела, што згодныя з маскоўскім кіраўніцтвам мінскія праваслаўныя святары выключна варожа ставяцца да ўкраінскай аўтакефаліі. Крыху дзіўна, але ў дадзенай рубрыцы месяцца дакументы, якія выдае альбо Маскоўская патрыярхія, альбо Мінская епархія. Дакументаў ад уласна БПЦ там няма.

Аляксандр ЯКІМЮК



Дата з Календара

# 100 гадоў з дня нараджэння
# Міколы Дэмуха

Ёсць нацыянальныя героі, імёны якіх невядомы абсалютнай бальшыні суайчыннікаў, хоць жылі і дзейнічалі яны параўнальна нядаўна. З ліку такіх якраз герой антысавецкага супраціву Мікалай Дэмух. Першым для шырокага кола пра яго напісаў літаратар Уладзімір Арлоў у сваіх „Імёнах свабоды": „Калі вам давядзецца быць на Нясвіжчыне, запытайцеся ў вяскоўцаў пра Дэмуха, і вы пачуеце сапраўдныя паданні, герой якіх прывядзе на памяць легендарнага Робін Гуда. Вам распавядуць пра тое, як удзень савецкі фінагент забіраў з двара апошнюю карoўку-карміцельку, а ўначы карoўка — цэлая і ўсцешаная — вярталася дадому з наколатай на розе цыдулкай: „Ад Дэмуха". Вам пакажуць дуброву, дзе Дэмух адзін выйграў бой з цэлым узводам гэбістаў або колішні млын, дзе ён таемна сустракаўся з каханай". На жаль, да гэтай пары мы не ведаем ні дакладнай даты яго нараджэння, не ведаем нават году смерці і месца яго магілы.

Нарадзіўся Мікола Дэмух у 1920 годзе ў вёсцы Квачы (Нясвіжскі раён). У жніўні 1944 — ліпені 1945 гадоў служыў у Чырвонай Арміі, удзельнічаў у баях, быў паранены. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Беларусь. Дэмух ваяваў з гітлераўцамі, але прыйшоўшы з фронту, быў уражаны і абураны несправядлівасцямі, якія новая ўлада чыніла ў былых заходнебеларускіх вёсках: бязлітаснымі падаткамі, арыштамі за кожнае неасцярожнае слова, высылкамі тысяч сем'яў у Казахстанскія стэпы. У траўні 1946 года ў Міколы Дэмуха быў знойдзены самагонны апарат, за што яго арыштавалі і сем дзён пратрымалі ў камеры папярэдняга заключэння Нясвіжскага раённага аддзела НКВД. Пасля гэтага ён быў вызвалены рашэннем пракурора раёна. Пад пагрозай новага арышту 17 кастрычніка 1946 года перайшоў на нелегальнае становішча, хаваўся ў склепе каля свайго дома, потым у лясах Нясвіжскага раёна. Рабіў спробы вярнуцца да легальнага жыцця, але пасля арышту жонкі, якую асудзілі да шасці месяцаў пазбаўлення волі, канчаткова застаўся ў лесе.

У траўні 1947 года Дэмух далучыўся да Саюза змагання за незалежнасць Беларусі — антысавецкай падпольнай арганізацыі пад кіраўніцтвам Івана Раманчука. Цягам 1947-1949 гадоў Мікалай Дэмух разам з іншымі сябрамі арганізацыі ўдзельнічаў у нападах на партыйна-савецкіх супрацоўнікаў, фінансавых агентаў і службоўцаў унутраных сіл, у рэквізіцыях на поштах і ў крамах. Паводле аператыўных зводак МГБ, у сваіх акцыях Мікалай Дэмух вызначаўся незвычайнай адвагай. У траўні 1949 года з групай быў акружаны на хутары ў Нясвіжскім раёне, паранены ў бай і трапіў у палон. Цягам следства яму інкрымінавалі ўдзел у падпольным „Саюзе змагання за вызваленне Беларусі", у анкеце арыштаванага, складзенай у турме МГБ у траўні 1949 года, пазначана, што ён меў пяць класаў адукацыі, працаваў цесляром, быў беспартыйным.

17 лістапада 1949 года Мікола Дэмух засуджаны трыбуналам унутраных войск БВА да 25 гадоў савецкіх канцлагераў. Дзіўна, што яму не прысудзілі расстрэлу. У ходзе перагляду справы 10 снежня 1955 года, ужо пасля смерці Сталіна, абвінавачанне ва ўдзеле ў падпольнай арганізацыі было знятае. У Беларусь Дэмух вярнуўся ў 1970-х гадах. Афіцыйна не быў рэабілітаваны. Вярнуўшыся на радзіму, Дэмух вельмі хутка памёр у час аперацыі ў шпіталі. Гэтую смерць можна было б растлумачыць проста падараваным савецкімі канцлагерамі здароўем, каб не адна акалічнасць: прыкладна тады ж, вярнуўшыся на волю, памёр і Іван Раманчук, прычым здарылася гэта таксама падчас нескладанай аперацыі.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Яны любяць кветкі

Жанчыны ці то ў горадзе ці то на вёсцы любяць кветкі і ахвотна іх садзяць у сваіх агародчыках. Жыхаркі Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета таксама. Цяпер летам кветкі красуюць у іх агародчыках, гэтак і ад ранняй вясны.

Кветкі ўпрыгожваюць панадворкі і агародчыкі Вольгі Максімюк, Зіны Рубчэўскай, Малгажаты Смольскай, Лідзіі Галубоўскай, Нэлі Харкевіч, Веры Шыкулы і Марыі Целушэцкай. У папярэднія гады тры з іх — спадарыні Зіна, Лідзія і Вера ўдзельнічалі ў конкурсе „На найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы Нараўчанскай гміны” і атрымалі памятныя дыпломы і грашовыя ўзнагароды. Лідзія Галубоўская заняла першае месца. Я тады меў гонар быць старшынёй конкурснай камісіі.

Дзякуючы вышэйзгаданым наваляўкоўскім вясковым гаспадыням вёска папрыгажэла, стала больш утульнай. А гэта прыемна і важна. **(яц)**

## Новыя платы

Зараз у вёсках на Гайнаўшчыне Падляшскага ваяводства ўсё менш і менш драўляных дамоў ды драўляных платоў пры іх.

Цяпер у даволі вялікай вёсцы Новае Ляўкова (налічвае яна 101 дом і 209 жыхароў) пачалі ставіць жалезныя платы на падмуроўцы і са слупкамі з чырвонай цэглы. Няшмат ужо новых драўляных. Добра ўсё ж, што аднаўляюць прыдамашнія агароджы.

Зараз новыя платы, між іншым, у Юрыя Сухадолы, Міхала Болбата, Валянціны Рыгаровіч, Яна Грэсіка, Аляксандра Ігнацюка, Міхала Баканача, Андрэя Скепкі, Андрэя Стыпулкоўскаага, Рамана Паскробкі, Лідзіі Казлоўскай, Аркадзія Харкевіча, Альжбеты Сахарчук, Міраслава Галубоўскага, Віталя Грыкі, Яна Стоцкага і Славаміра Смольскага.

На працягу тыдня перад нядзеляй 19 ліпеня гэтага года пачала пабудову новага плота Вера Шыкула і закончыла пабудову агароджы Лідзія Малішэўская.

Варта дадаць, што прыгожыя платы гэта візітная картачка вясковага панадворка а таксама і вёскі. **(яц)**



## 26.07 — 01.08

**(22.03. — 20.04.)** 26-28.07. удасца табе з поспехам зашкодзіць тваім ворагам. 26-28.07. можаш знайсці добрую працу — будзеш проста ззяць на кваліфікацыі. 25-29.07. панаракаеш на падстраўнікавую залозу (тшустку). 29-31.07. не будзеш вельмі спраўны на працы; не ўключайся ў чужыя канфлікты. Адпачывай, запрасі суседзяў. Найлепшы час пайсці ў адпачынак. Гарачыя флірты! Ды пільнуй каштоўных рэчаў, ключ ад хаты пакінь давераным людзям. Шкада, што плады твае працы схочуць спажываць іншыя.

**(21.04. — 21.05.)** 26-29.07. могуць азвацца праблемы з алергіяй. 25-29.07. можаш кепска ацаніць сітуацыю. 29-31.07. адчуеш, што прыгнятаюць цябе. 29-31.07. можаш пачаць рамонт. Цяжкавата дагаварыцца нават з самымі блізкімі. Хтось даверыць табе сакрэт. Але ўсё ж ажыццяўляй свае планы, некаторыя з іх прынясуць табе касу і поспех.

**(22.05. — 22.06.)** 25-29.07. рамантычныя сітуацыі ў пары, асабліва са стажам. Тваё сяброўства можа быць выпрабавана. 29-31.07. інспіруючыя размовы. 26-28.07. можаш канфліктаваць з супрацоўнікамі або раднёй. Планеты інспіруюць цябе да самастойнага і адважнага дзеяння. Дамова падпісаная 29-31.07. можа стаць для цябе крыніцай вельмі вялікіх прыбыткаў!

**(23.06. — 23.07.)** Будзь больш асцярожным у праектах і планах, бо ахвота хуткага і лёгкага прыбытку хай не заслоніць табе рызыкі. Падтрымлівай свайго партнёра, які мае цяпер свае пяць хвілін. Калі здарыцца табе прыхварэць, хутка з гэтага выйдзеш. 29-31.07. знакаміты час на падарожжы і добрую забаву. 29-31.07. усё можа змяніцца ў пары; знаёмству ці сяброўству можа дадацца рамантыка.

**(24.07. — 23.08.)** Рэзультаты твае працы стануць усім бачнымі. На жаль, канікулы сёлета ў цябе сціплейшыя. Пераканаешся, што каб здабыць каштоўнае, трэба моцна пастарацца (і ў матэрыяльным свеце, і ў пачуццях). 25-29.07. не дай сабе ўнушыць, што штосьці купляючы, ашчаджаеш. Лячыся зёлкамі, шпацыруй, катайся на ровары.

**(24.08. — 23.09.)** Больш часу прызначыш на тое, што любіш, не спяшайся і не рабі нічога на сілу. Безупынныя натацыі з'яўляюцца мала канструктыўнай формай дапамогі іншым; блізкія могуць палічыць цябе нават за нахабу. Не сватай нікога сілай. Рамонты пачынай 29-31.07.; дапытвайся (дыпламатычна) пра павышэнне. 26-31.07. паявіцца нагода да інвестыцыі, але разваж — мо трэба будзе браць пазыку. 26-28.07. хіба не ўдасца пазбегнуць канфліктаў.

**(24.09. — 23.10.)** 26-28.07. здушаныя эмоцыі могуць даць знак пра сябе неспадзявана. 25-29.07. у тваім атачэнні можа паявіцца хтось вельмі сімпатычны, але несумленны; не дай замазаць сабе вочы кампліментамі і правер, якія ў яго намеры. Не пазбягай сонца, але не загарай доўга. 29-31.07. афармляй справы ва ўстановах і банках. 30-31.07. будзе нагода аддзячыць. 26-28.07.не бяры да сэрца прыкрых слоў, якія пачуеш. Пакідаючы дабытак пад апеку найбліжэйшым, падумай, ці добра робіш.

**(24.10. — 22.11.)** 26-28.07. дробная розніца ў меркаваннях можа давесці да гучнага скандалу. 26-29.07. папільнуй каханую асобу — вакол круціцца канкурэнцыя! 26-31.07. паразмаўляй шчыра пра будучыню вашай сувязі. Скарыстаеш свае мастацкія таленты і звернеш на сябе ўвагу. Пі лякарствы з хвошчкай.

**(23.11. — 22.12.)** 26-29.07. можа ахапіць цябе лянота і неахвота. Калі марыш пры шлюб, зрабі гэта 26-31.07. 30-31.07. павыкідвай з хаты непатрэбшчыну. Ідэальны момант на паездкі ў мілай кампаніі. Хоць 28-31.07. лепш не ангажуйся ў афармленне дарожных і іншых важных папер, бо толькі страціш час. На працы рабі ўсё на ўласных умовах, асабліва 29-31.07. Паправіцца твой аптымізм!

**(23.12. — 20.01.)** 29-31.07. час спрыяе добрым задумам на інвестыцыі, ашчаднасці і здабыванню грошай. 29-31. сенсацыі і плёткі, не думай, што ўсе яны сапраўдныя; не перадавай іх далей. 26-31.07. падумай, ці варта аддавацца табе таму, што цяпер сапраўды не вельмі цікавіць. Дзярэ табе ў горле? Гэта не прастуда, а хутчэй алергія.

**(21.01. — 19.02.)** 25-29.07. — найгоршыя дні на любоўныя рашэнні. 29-31.07. добры час на шуканне новага жылля, перасяленне. 29-31.07. убачыш забаўны, часам абсурдны бок сур'ёзных здарэнняў. Адпачывай на ўлонні натуры. Добра пільнуй грошай (можаш згубіць кашалёк або нарвацца на ашуканцаў). Не будзь зайздросны і прагны, а ў інтарэсах трымайся жалезных прынцыпаў.

**(20.02. — 21.03.)** 25-29.07. лепш не мяняй інтэр'еру дома. 29-31.07. скампануеш новыя і смачныя стравы. 29-31.07. сядзь на дыету. Еж здаравей і больш разнастайна. Дамаўляйся на рандэву і іншыя мілыя сустрэчы. Калі нават дадуць табе чорную поліўку, дык не будзеш перажываць. Застрахуй жыллё. Сваю актыўнасць накіроўвай на самае найважнейшае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У нас збіраюць ягады

У Нараўчанскай гміне ў лешуцкім, наваляўкоўскім і плянтаўскім лясах растуць, між іншым, ягады — чарніцы, лахіні (яны большыя ад чарніц, далікатна сінія і на больших кусціках) і брушніцы. У гэтым годзе яны буйныя і іх шмат.

Зараз пасля Пятра і Паўла некаторыя жыхары, пераважна жанчыны, між іншым, Лешукоў, Міхнаўкі, Новін, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова і Плянты збіраюць перш-наперш чарніцы.

На фотаздымку адна са збіральніц ягад (яна тут з малым кошычкам) Марыя Харкевіч з Новага Ляўкова.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**



## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**1.** кавалак тонкай празрыстай тканіны, прымацаваны да жаночага капелюша для закрывання твару, **2.** юрыдычнае правіла, **3.** над падшытнікам, **4.** партнёр жняі, **5.** планета, што светлыя згадкі з сабой прынясла, **6.** апытальны ліст для збору меркаванняў, **7.** індыйскі князь, **8.** адзін брусок цэглы, у якім... гліна, **9.** магутная сібірская рака, **10.** від мясцовасці з вышыні, **11.** адтуліна ў абарончым збудаванні, байніца, **12.** горы ў Таджыкістане, **13.** спартыўны прыз, **14.** салдат, **15.** між снеданнем і вячэрай, **16.** спартыўныя спаборніцтвы, у якіх усе ўдзельнікі сустракаюцца паміж сабою.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм. **(ш)**

| | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | 2 | | | | | | 3 | | | | | | |
| | | | | | | | | 4 | | | | | | | 5 | | |
| | | | 6 | 7 | | | | | | | 8 | | | 9 | | | |
| 10 | | | 11 | 12 | | | | | | | | | | | | 13 | |
| | | | | | | | | | 14 | | 15 | 16 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Шаўляй, бюджэт, Гобі, язмін, медаль, Уж, чараўнік, Трамп, мак, Бухара, сяло.

Рашэнне: **Бог даў людзям ежу, а чорт кухараў**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У ліпеньскім лесе

**Жыццярадасны народ жыве без тугі. Ну, калі б нешта тужлівае кранала сам той народ, тады можа была б і нейкая не надта жыццярадасная задума. Бо калі нейкі клопат, нейкая туга кранае далёкага бліжняга, тады нечага турбавацца, тады мора па калені, тады можна гуляць на ўсю катушку...**

Вось нядаўна на гэтых старонках паказалася інфармацыя, што нам жывецца больш радасна, бо нашы ваяводскія ўлады запусцілі аўтобусныя курсы на маршруты, па якіх тужыць пасажырскі народ. У іх ліку быў маршрут з Беластока ў Ліпск. Ліпск, у момант яго закладкі каралём Баторыем, меў стаць важным портам на Бобры, злучаючым любое манарху Гродна са сталічнай Варшавай; магчыма, што зачэпка для закладкі горада на Бобры была іншая, але не ў той зачэпцы справа, толькі ў тапаграфіі — Ліпск быў закладзены ў вярхоўях нашай ракі Бобры...

Ну, і задумаў я рушыць у напрамку таго нашага Ліпска. І пакарыстаўся папулярным парталам e-podroznik.pl знайсці туды маршрут. І калі мэтавай мясцовасцю назваў Lipsk, тады мне паявіўся зусім іншы тапонім: *Freistaat Sachsen, Kreisfreie Stadt Leipzig*. Гэта Лейпцыг, буйны германскі горад, славуты спакон вякоў сваім міжнародным кірмашом, якім напэўна зацікаўлены буйныя камерсанты, а іншы народ, асабліва ж з нашай Усходняй сцяны, неабавязкова. Яшчэ не надта даўно такога не было б, але, відаць, у адміністрацыі партала e-podroznik.pl адбылася добрая змена, прыйшлі туды жыццярадасныя людзі. Рэлятыўна жыццярадасныя, бо ж кідаючыя далёкім бліжнім калоды пад ногі — ці ж не павесяліцца такою весялосцю?.. Ёсць і больш весялосці — калі запытаў я пра маршрут у Нараўку, тады партал запрапанаваў мне „Нараўку", называючы гэтым тапонімам адзін з прыпынкаў у Нарве. У Дубінах той жа партал памясціў прыпынак Дубляны...

У выніку такога тапанімічнага закалоту рашыў я адтэрмінаваць далейшыя падарожжы і паехаць у недалёкую Пярэйму. Спадзяюся, што гэтага тапоніма не ведаюць жыццярадасныя адміністратары падарожнага партала. Ды і мала каму ён цяпер, мабыць, вядомы. А пацягнулі мяне ў Пярэйму чарніцы, якіх кусцікі з ягадамі заўважыў я нядаўна ў суседнім з Пярэймай лесе.

Вялікага ўраджаю чарніц там не было — толькі два ўчасткі. Ды і не спрактыкаваны я ў гэтай працы. Ну, жыццярадасныя людзі могуць аблягчыць сабе гэты занятак, выдумліваючы адпаведныя прылады. Напрыклад, у 1980-х гадах у Нараўцы былі папулярныя г.зв. машынкі — шырокія на пядзю відэльцы, з дапамогай якіх выграбаліся з кустоў ягады чарніц. Тады людзі валаклі з Пушчы за Грушкамі і Гушчэвінай багаты чарнічны плён. Але неўзабаве за Грушкі і Гушчэвіну ўзбуйнілі Белавежскі нацыянальны парк і дрэнаж пушчанскага зарасніку быў прыпынены. А мне сёлета цягам каля дзвюх гадзін удалося сабраць пад кілаграм чорных ягад. Дзве гадзіны непрывычнай працы дастаткова для адмовы ад далейшай здабычы лясных дароў...

Чарніца гэта лекавая расліна. Яе ягады прымяняліся пры страўнікавых праблемах. Польскамоўны артыкул у Вікіпедыі падае і іншую цікавінку: „У пачатку XX стагоддзя чарніцы значна паўплывалі на лёс свету. Яны былі выкарыстаны мужыком і знахарам з Табольскай губерні — Распуціным — для спынення крывацёкаў хворага царэвіча Аляксея. Дзякуючы гэтаму здабыў ён сімпатыю сям'і цара Мікалая II, а затым і велізарны ўплыў на лёс Расіі". Магчыма, што і на лёс нашых продкаў паўплывалі сціплыя лясныя ягадкі...

А ў лесе дзе-нідзе паказваліся па дзветры лісічкі — жоўценькія грыбочкі, якія ў нашым народзе называюць пліскамі.

Спачатку не хацелася мне турбаваць гэтых нешматлікіх раслінак, але, стаміўшыся чарніцамі, рашыў я ўсё ж такі пакваліцца на плiскі. Трэба было пільна ўглядацца ў пошуках жоўтых кропак у лясной траўцы. Назбіраў жменю...

Блукаючы па лесе, трапіў я на нядаўна высечаную ляду. Можа сунічкі там знойдуцца — спакусіла мяне заглянуць на жараную сонцам паляну. Суніцы былі, але не столькі, каб заняцца іх збіраннем, але пасмакаваць было можна. Да таго ж на паляне было шмат святаянніку...

Ды і можна было паўглядацца ў пні высечаных магутных дрэў. Гэтыя пні — сведкі нялёгкага змагання чалавека з прыродай. Ну, з такім дрэвам чалавек змагаецца быццам міфічны Геркулес з Антэем — дрэва трэба адарваць ад матулі-зямлі, якая тое дрэва вырасціла-выняньчыла. Паверхні пнёў з некалькіх плошчаў — з не аднаго боку трэба было дрывасекам заходзіць лясных велікаnaў, каб іх паваліць на зямлю. Ды і калі такі волат звальваўся, трэба было вельмі абачліва ўцякаць ад яго магчымага апошняга ўдару. Напэўна нямала людзей загінула ў змаганні з ляснымі волатамі, шмат таксама выйшла з гэтага змагання з пакалечанымі нагамі, рукамі, рэбрамі...

Неўзабаве радасць ад смакавання суніц скончылася, бо ж у лесе шмат рознай жывёлы, якая разглядае чалавека як ворага ў дарвінаўскім змаганні за быт. Накінулася на мяне хмара камароў, ды не толькі — па галаве сталі лазіць невялікія жывінкі, якіх можна было сцягнуць толькі ногцямі. Кляшчы...

Вярнуўшыся дадому абтрос я з усёй лясной фаўны. Аднак на другі дзень, з раніцы, пачуў, што адзін клешч учапіўся ў мяне; яшчэ не надта ўчапіста, таму лёгка яго выцягнуў. Чырвонай чырвані было каля сантыметра ў дыяметры, а менш чырвонай каля васьмі сантыметраў...

Усё ж такі натура чалавека, быццам ваўка, цягне ў лес. Задумаў я паваяваць з каварнымі ляснымі баевікамі. З гэтай мэтай узброіўся я ў расьлінку, якая мела адпуджваць усялякіх насякомых. Узяў я некалькі сукведцяў звычайнай піжмы (*wrotycz pospolity*), якая, паводле даступных мне вусных і пісьмовых крыніц, мела быць маім панцырам ад камароў і кляшчоў. Заткнуў я тыя парасончыкі за шыю і шпару ў лес; у той самы, за Пярэймай.

Камары і кляшчы спачатку быццам мяне не бачылі, быццам схаваўся я ад іх за шапкай-нявідкай. Нарваў я крыху святаянніку на згаданай паляне, а пасля падаўся ў лясны гушчар, палакоміўшыся на лісічкі. Лясная фаўна стала мяне заўважаць, нягледзячы на шмат згаданай піжмы на мне. На гэты раз удалося мне сабраць дзве жмені лісічак...

Мой дзед называў калісь лісічкі жыдоўскімі грыбамі, бо іх жыды ахвотна прымянялі ў ежу. Лісічак не любяць чэрві, і то абсалютна, не тое, што камары і кляшчы піжмы. Вось і жыды маглі есці лісічкі, а іншых грыбоў, у якіх маглі быць чэрві, яны не елі. А звязана гэта з кашэрнасцю, дзе прававерным жыдам забараняюцца некаторыя стравы, асабліва жывёльныя. Не буду я тут прыводзіць жыдоўскіх рытуальных законаў, хаця некаторыя вядомыя, напрыклад жыдам забаранялася есці свіное мяса. Таксама нельга было спажываць мяса агідных з выгляду жывёл, у тым ліку і насякомых. Тут было выключэнне — дазвалялася есці некаторыя віды саранчы; мабыць была гэта паслядоўнасць саракагадовай вандроўкі ў Абетаваную зямлю, калі прыходзілася есці тое, што падала з неба, так як славутую манну. А грыбныя чэрві гэта ж асабліва агідныя стварэнні, таму і тых грыбоў, дзе яны маглі прыхоўвацца перад трапіданнем у рот, нельга было прававерным жыдам есці...

Яшчэ непадалёку ад аўтобуснага прыпынку каля Пярэймы расце крыху даволі маладых ліп. Сярэдзіна ліпеня гэта ж самы адпаведны час на збіранне ліпавага цвету. Ну то звабіла мяне адна ліпка снежна-белым пахучым сваім цвіценнем. Добра было б збіраць той цвет, але ж у яго абарону кінулася на мяне хмара камарні. Больш я ад яе адмахваўся, чым мог займацца ліпавымі дарамі. Але і так камары мяне пакалолі, быццам чэрві аднаго-аднэнькага маслячка, якога прынагодна ўдалося мне знайсці. І клешчыка чарговага таксама ўдалося мне прывезці з лесу каля Пярэймы...

Насякомыя, магчыма, не любяць паху звычайнай піжмы, але, як мне здаецца, толькі тады, калі яны сытыя. Гэтак жа і людзі — калі яны сытыя, то могуць на ўсё пырхаць. Але калі камар ці клешч галодныя, то, мабыць, ніякі раслінны пах не спыніць іх ад больш прывабнага паху спажывы з высокакаларыйнай чалавечай матэрыі...

Лісічкі тушыў я паўгадзіны. Цыбулю, моркву і сельдэрэй, парэзаныя ў саломку, тушыў я напалову карацей. Змяшаў з лісічкамі, запраравіў крупінкай мукі. Атрымаўся цымус!

А чырвань ад кляшчоў набрала жаўтаватага колеру, як колер лісічак, колер кветак святаянніку, колер кветак піжмы...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960